

# БЕЛАРУСКІЯ СТАРОНКІ ВІЛЬНІ
# VILNIAUS GUDŲ PUSLAPIAI

## Ля вытокаў незалежнай Беларусі
**(сярэдзіна XIX – першая палова XX ст.)**

## Prie nepriklausomos Gudijos ištakų
**(XIX a. vidurys – pirmoji XX a. pusė)**

## Ад аўтара:

Дадзены нумар інфармацыйна-турыстычнага выдання створаны адмыслова для азнаямлення з мясцінамі, звязанымі з беларускім грамадскім, культурным і палітычным жыццём у Вільні ў сярэдзіне XIX – першай палове XX ст.

Вы зможаце азнаёміцца з сучасным станам беларускай прысутнасці ў Вільні, паблукаць па вуліцах ды месцах, дзе хадзілі славутыя беларусы. Паглядзець на тое ж неба, на якое глядзелі выбітныя дзеячы беларускай культуры, падыхаць паветрам, якім дыхалі беларускія адраджэнцы. Безумоўна, мы не зможам адлюстраваць усё тое, што мелі беларусы на той момант, але гэта наша маленькая спроба і крок наперад да аднаўлення беларускай гістарычнай памяці.

У дапамогу да тэкстаў на беларускай і літоўскай мовах – шырокая падборка фотаздымкаў і мапаў-схемаў.

Жадаем прыемнага падарожжа!

## Autoriaus pratarmė:

Šis informacinio pobūdžio leidinys skirtas susipažindinti su Vilniaus vietomis, susijusiomis su gudų pilietiniu, kultūriniu ir politiniu XIX a. vidurio – XX a. pirmosios pusės gyvenimu .

Jūs galėsite daugiau sužinoti, kuo šiandien gyvena Vilniaus gudai, pasivaikščioti po gatves ir vietas, kur lankėsi žymūs gudai. Pažiūrėti į tą patį dangų, į kurį žvelgė įstabūs gudų kultūros veikėjai, pakvėpuoti tuo pačiu oru, kuriuo kvėpavo Gudijos atgimimo kūrėjai. Be abejo, negalime atspindėti visko, ką turėjo gudai tuo metu, bet tai mūsų mažytis mėginimas ir žingsnis gudų istorinės atminties gaivinimo keliu.

Prie tekstų gudų ir lietuvių kalbomis pridedame gausų nuotraukų ir žemėlapių rinkinį.

Linkime malonios kelionės!



Neris
Neris
Vilnia
Lukiškių
Kalvarijų
Kaštonų
Gedimino pr.
Jasinskio
Pakalnės
Vilniaus
Pamenkalnio
Arsenalo
T. Kosciuškos
Antakalnio
Sapiegos
Liejyklos
Šv. Ignoto
K. Kalinausko
Pylimo
J. Basanavičiaus
Universiteto
Šv. Mykolo
Pilies
Dominikonų
Trakų
Vokiečių
Stiklių
Užupio
Polocko
Maironio
Bokšto
Didžioji
Arklių
Aušros Vartų
Pylimo
Rasų
Drujos
M. Daukšos
Raugyklos
Sodų
Kauno
Pelesos

# Мапа / Žemėlapis

1. Мемарыяльная дошка ў гонар Кастуся Каліноўскага\ Kosto Kalinausko atminimo lenta
2. Лукішская плошча \ Lukiškių aikštė
3. Крыж і мемарыяльная пліта кіраўнікам паўстання 1863 г. \ Kryžius ir memorialinė lenta 1863 m. sukilimo vadų atminimui pagerbti
4. Замкавая Гара Гедыміна \ Pilies kalnas
5. Палац Тышкевічаў \ Tyškevičių rūmai
6. Мемарыяльная дошка ў гонар Францішка Багушэвіча \ Pranciškaus Bohuševičiaus atminimo lenta
7. Рэдакцыя газеты "Наша Доля" \ Laikraščio „Naša Dolia" redakcija
8. Рэдакцыя газеты "Наша Ніва" ў 1906 г. \ Laikraščio „Naša Niva" redakcija 1906 m.
9. Рэдакцыя газеты "Наша Ніва" ў 1907 г. \ Laikraščio „Naša Niva" redakcija 1907 m.
10. Рэдакцыя газеты "Наша Ніва" ў 1911–1913 гг. \ Laikraščio „Naša Niva" redakcija 1911–1913 m.
11. Рэдакцыя газеты "Наша Ніва" ў 1913–1914 гг. \ Laikraščio „Naša Niva" redakcija 1913–1914 m.
12. Дом Вацлава Ластоўскага \ Vaclovo Lastouskio namai
13. Касцёл Св. Міхала. Месца службы Адама Станкевіча \ Šv. Mykolo bažnyčia. Adomo Stankevičiaus mišių vieta
14. Касцёл Св. Мікалая. Месца службы Адама Станкевіча \ Šv. Mikalojaus bažnyčia. Adamo Stankevičiaus mišių vieta
15. Дом Адама Станкевіча \ Adomo Stankevičiaus namai
16. Дом Янкі Пазняка \ Jankos Pazniako namai
17. Дом Браніслава Тарашкевіча (1921–1922 гг.) \ Bronislovo Taraškevičiaus namai (1921–1922 m.)
18. Дом Браніслава Тарашкевіча (1923–1926 гг.) \ Bronislovo Taraškevičiaus namai (1923–1926 m.)
19. Дом-друкарня Францішка Скарыны \ Pranciškaus Skorinos spaustuvė
20. Унутраны дворык друкарні Скарыны \ Vidinis Pranciškaus Skorinos spaustuvės kiemas
21. Друкарня Марціна Кухты \ Martyno Kuktos spaustuvė
22. Беларускае выдавецкае таварыства \ Gudų leidėjų draugija
23. Выдавецтва Барыса Клецкіна \ Boriso Kleckino spaustuvė
24. Бібліятэка Барыса Даніловіча \ Boriso Danilovičiaus biblioteka
25. Друкарня імя Францішка Скарыны \ Pranciškaus Skorinos spaustuvė
26. Беларускі народны дом \ Gudų tautos namai
27. Мемарыяльная дошка ў гонар Рыгора Шырмы \ Ryhoro Šyrmos atminimo lenta
28. Комплекс жылых пабудоў архітэктара Дубейкаўскага \ Architekto L. Vitan-Dubeikauskio suprojektuotas gyvenamųjų namų kompleksas
29. Месца жыхарства Пятра Сергіевіча ў міжваенны час \ Vieta, kur gyveno Serhijevičius tarpukariu
30. Месца жыхарства Пятра Сергіевіча з 40-х гадоў XX ст. \ Vieta, kur Serhijevičius gyveno nuo ketvirtojo XX a. dešimtmečio
31. Базыльянская брама \ Bazilijonų vartai
32. Віленская беларуская гімназія \ Vilniaus gudų gimnazija
33. Дом настаўніка \ Mokytojų namai
34. Беларускі банк \ Gudų bankas
35. Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры \ Gudų ūkio ir kultūros institutas
36. Сядзіба Лявона Вітан-Дубейкаўскага \ Liavono Vitan-Dubeikauskio sodyba
37. Могілкі Росы \ Rasų kapinės

Вільня – алмаз на мапе сучаснай Еўропы. Вільня – каштоўны скарб шматлікіх сучасных народаў і іх культур, сотняў тысяч жыхароў гэтага горада і да сённяшняга дня. Вільня... Можна пералічваць сотні, тысячы яе заслуг і апісваць “трохпавярховымі” эпітэтамі ўздыхі па гэтым горадзе, але ўсё гэта блякне перад самым асноўным, а менавіта перад тым, што ж на самай справе значыць Вільня для ўсіх тых, чые лёсы звязаныя з ёю.

Вільня – сучасная сталіца Літоўскай Рэспублікі, старажытная – Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, Кіеўскага, Валынскага, Падольскага, Ліфляндскага, Смаленскага, Чарнігаўскага і іншых земляў.

Адзін горад – дзесятак народнасцяў. Адзін горад – дзесятак варыянтаў гісторыі. Вільня – менавіта той горад, які аб’ядноўвае ўсіх нас: літоўцаў і беларусаў, рускіх і палякаў, габрэяў і немцаў, а таксама іншыя народы. У мяне такое адчуванне, што гэты горад быў адмыслова створаны Госпадам Богам менавіта дзеля таго, каб суседнія народы зразумелі, што ў іх ёсць нашмат больш агульнага, чым адрознага. Вільня – еўрапейская Мека, горад старажытных ліцвінаў і тых народаў, якія крэўнымі повязямі знітаваныя з гэтым старадаўнім народам. Вільня – горад, які яднае ўсіх нас і дае ўсім нам моц і сілу.

На сённяшні дзень менавіта Літоўская Рэспубліка ўзяла на сябе проста агромністую адказнасць па ахове і доглядзе “горада-музея пад адкрытым небам”. Таго месца на планеце Зямля, якое кожнаму з нас вядомае і кожнаму з нас вельмі дарагое. За гэты цяжар адказнасці Літоўскай Рэспубліцы ўсе павінны быць удзячнымі.

Што ж такое “беларуская Вільня” ў маім разуменні? І якое месца цяпер мы займаем у гэтым горадзе?

Vilnius – neįkainojamas  deimantas šiuolaikinės Europos žemėlapyje. Jis vertingas daugelio šiuolaikinių tautų ir jų kultūrų turtas, priklausantis ir keliems šimtams tūkstančių šio nepaprasto miesto gyventojų. Vilnius...

Galima vardyti šimtus, o gal ir tūkstančius jo nuopelnų, skambiais epitetais žavėtis šiuo svajų miestu, bet, manau, visa tai nublanksta prieš tai, kas svarbiausia, – ką iš tikrųjų reiškia Vilnius visiems, kieno likimai susiję su juo.

Vilnius yra dabartinė Lietuvos Respublikos ir senoji Lietuvos, Rusų, Žemaičių, Kijevo, Voluinės, Podolės, Livonijos, Smolensko, Černigovo ir kitų žemių Didžiosios Kunigaikštystės sostinė.

Vienas miestas – dešimtys tautybių. Vienas miestas – dešimtys istorijos variantų. Vilnius būtent tas miestas, kuris vienija lietuvius ir gudus, rusus ir lenkus, žydus ir vokiečius, taip pat ir kitas tautas . Man regis, Viešpats Dievas tyčia sukūrė šį miestą, kad gretimos tautos suprastų, kad turime daugiau bendra nei atskira.

Vilnius yra Europos Meka, senovės LDK gyventojų ir iš jų kilusių tautų miestas. Vilnius yra miestas, kuris jungia mus visus ir teikia stiprybės.

Šiuo metu didžiulę atsakomybę saugoti ir prižiūrėti „miestą muziejų po atviru dangumi“, tą Žemės planetos tašką, kuris kiekvienam iš mūsų žinomas ir kiekvienam labai brangus, prisiėme Lietuvos Respublika. Už šią atsakomybės naštą  Lietuvos Respublikai visi turime būti dėkingi.

Kas gi, mano supratimu, yra „gudų Vilnius“? Ir kokią vietą dabar užimame mes šiame mieste?

„Jeigu tėvynainiai geriau pažins Vilniaus gudų istoriją ir kultūrą, man tai bus geriausias atpildas“, - sakė Liavonas Luckevičius, knygos „Kelionės po Vilnių“ autorius, įkvėpęs ir mane parašyti šį darbą.  Išties niekas negali pretenduoti į viską, nes niekas tam ne-

“Лепшае пазнанне суайчыннікамі помнікаў беларускай гісторыі і культуры Вільні будзе для мяне найлепшай узнагародай”, – так казаў славуты Лявон Луцкевіч, аўтар кнігі “Вандроўкі па Вільні”, якая і натхніла мяне на гэтую працу.

Сапраўды, ніхто не можа прэтэндаваць на ўсё, бо ніхто не мае на гэта абсалютнага права. Нам, беларусам, трэба асэнсаваць і дагледзець тое, што непасрэдна датычыць Беларусі. Агульную гісторыю, агульную спадчыну трэба даглядаць супольна, на ўзроўні краін, нашчадкаў Вялікага Княства.

Віленская беларуская гімназія, дом, дзе жыў і працаваў легендарны Францішак Скарына, касцёл Святога Міхала, дзе служыў славуты А. Станкевіч, царква Святой Ефрасінні Полацкай, пахаванні на віленскіх могілках славутых беларусаў, мемарыяльныя шыльды і яшчэ сотні месцаў, якія так альбо інакш звязаныя з сучаснай Беларуссю наўпрост. Гэта вялізная беларуская спадчына.

Віленскім паветрам дыхалі Скарына і Каліноўскі, Колас і Купала, Багдановіч і Багушэвіч. Гэтым паветрам дыхалі цэлыя пакаленні вядомых і невядомых беларусаў. Нашыя продкі былі свабоднымі, пасля намагаліся быць свабоднымі, а пасля ведалі кошт гэтай свабодзе. Гэтая зямля дала прытулак сотням тысяч беларусаў...

Беларусь, Польшча, Літва, Украіна, а таксама Расія – цяпер розныя краіны, але, як ні глядзі, з агульнай гісторыяй. Не заўжды мірнай, але ж агульнай…

Агульная і ў той жа час мірная гісторыя была толькі тут, у Вільні. Гэтая талерантнасць і добразычлівасць застаецца тут і цяпер. Так было, так ёсць і няхай так будзе.

*Кірыл Атаманчык*

turi jokios teisės. Mums, gudams, reikia įprasminti ir prižiūrėti bent jau tai, kas tiesiogiai susiję su Gudija. Bendrą istoriją, bendrą paveldą reikia prižiūrėti drauge, šalių LDK paveldėtojų lygmeniu.

Vilniaus gudų gimnazija, namai, kur gyveno ir dirbo legendinis Pranciškus Skorina, Šv. Mykolo bažnyčia, kur kunigavo garsusis Adomas Stankevičius, Šv. Eufrosinijos Polockietės cerkvė, žymių gudų kapai Vilniaus kapinėse, atminimo lentos ir dar šimtai vietų, vienaip ar kitaip susijusių su dabartine Gudija. Tai didžiulis gudų paveldas. Tačiau kodėl jo beveik niekas neprižiūri? Klausimą palikime atvirą.

Vilniaus oru kvėpavo Skorina ir Kalinauskas, Kolas ir Kupala, Bahdanovičius ir Bahuševičius, ištisos žinomų ir nežinomų gudų kartos. Mūsų protėviai buvo laisvi, paskui siekė būti laisvi, paskui žinojo tos laisvės vertę. Ši žemė suteikė prieglobstį šimtams tūkstančių gudų, kurie taikiai sugyveno su savo broliais – kitų tautų žmonėmis.

Gudija, Lenkija, Lietuva, Ukraina, taip pat Rusija – dabar tai skirtingos šalys, tačiau, kaip bežiūrėtum, su bendra istorija. Ne visada taikia, o vis dėlto bendra...

Istorija, kuri buvo ir bendra, ir taiki, buvo tik čia, Vilniuje. Ši tolerancija ir geranoriškumas išlieka ligi šiol. Taip buvo, taip yra ir taip tebūnie.

*Kirylas Atamančykas*

Былая вязніца Кастуся Каліноўскага
Buvęs Kosto Kalinausko kalėjimas



Кастусь Каліноўскі – адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 года. Публіцыст. Паэт. Пасля задушэння паўстання расійскімі царскімі войскамі быў арыштаваны на сваёй кватэры ў доме каля касцёла Св. Яна (Pilies g).

Пасля затрымання быў змешчаны ў вязніцу непадалёк ад касцёла Св. Духа (Dominikonų g.) па вуліцы Св. Ігната 11 (Šv. Ignoto g. 11), дзе знаходзілася большасць арыштаваных паўстанцаў 1863 года.

Сёння на сцяне былога Дамініканскага кляштара знаходзіцца мемарыяльная дошка ў памяць аб тым, што Кастусь Каліноўскі правёў тут апошнія дні свайго жыцця.

Kostas Kalinauskas – vienas iš 1863 metų sukilimo vadų. Publicistas. Poetas. Sukilimą numalšinus Rusijos caro kariaunoms, buvo areštuotas savo bute name prie Šv. Jonų bažnyčios (Pilies g.).

Buvo įkalintas netoli Šv. Dvasios bažnyčios (Dominikonų g.) Šv. Ignoto g. 11. Ten buvo įkalinti dauguma 1863 m. sukilėlių.

Šiandien ant buvusio kalėjimo sienos kabo atminimo lenta, primenanti, kad čia Kostas Kalinauskas praleido paskutines savo gyvenimo dienas.




Панарама Лукішскай плошчы
Lukiškių aikštės vaizdas

Цягам 1863–1864 г. на Лукішскай плошчы ў Вільні забівалі паўстанцаў, што абаранялі сваю зямлю ад царскай Расіі. У 1863 годзе тут быў павешаны яшчэ адзін кіраўнік антырасійскага паўстання Зыгмунд Серакоўскі (родам з Валыні, Украіна).

А вось што піша пра смерць самога Каліноўскага знакаміты беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч:

*"…Калі яго вялі на пакаранне, ён, як і ўсе "чырвоныя", трымаў кулак левай рукі на тым месцы, дзе білася сэрца. Стары ўмоўны знак змоўшчыкаў:*

*– Люблю Беларусь!*

*Грымелі барабаны. І пад гэты пошчак была зроблена адна з самых чорных спраў, якія ведала беларуская гісторыя.*

*Гэта было 10 сакавіка 1864 года ў дзесяць гадзін трыццаць хвілін раніцы".*

Сёння на Лукішскай плошчы размешчана сціплая памятная пліта кіраўнікам паўстання 1863 года: Каліноўскаму і Серакоўскаму. Надпісы на пліце па-літоўску і па-расійску.

Таксама ўдзячнымі літоўцамі ўсталяваны памятны драўляны крыж з надпісам "Змагарам за свабоду Літвы" (на літоўскай мове).

1863–1864 metais Lukiškių aikštėje buvo žudomi sukilėliai, gynę savo žemę nuo carinės Rusijos. 1863 metais čia pakartas dar vienas antirusiško sukilimo vadas – Zigmuntas Sierakauskas (kilęs iš Voluinės, Ukraina).

O štai ką apie paties Kalinausko mirtį rašo garsus gudų rašytojas Vladimiras Karatkevičius:

*„…Kai jį vedė į bausmę, jis, kaip ir visi „raudonieji", laikė kairės rankos kumštį sugniaužtą ties ten, kur plaka širdis. Senas sutartinis sąmokslininkų ženklas:*

*– Myliu Gudiją!*

*Trenkė būgnai. Ir jiems griaudint, įvykdytas vienas juodžiausių Gudijos istorijoje darbų.*

*Tai įvyko 1864 metų kovo 10 dieną dešimtą valandą trisdešimt minučių ryto."*

Šiandien Lukiškių aikštėje yra kukli lenta 1863 metų sukilimo vadams – Kalinauskui ir Sierakauskui – atminti. Užrašai ant lentos lietuvių ir rusų kalbomis.

Dėkingi lietuviai taip pat pastatė medinį kryžių su užrašu „Kovotojams už Lietuvos laisvę" lietuvių kalba.




Крыж у гонар паўстанцаў 1863 г.
Kryžius 1863 m. sukilėlių garbei

Пакуль дакладна не высветленае месца пахавання Кастуся Каліноўскага. Многія навукоўцы мяркуюць, што гэтае пахаванне хутчэй за ўсё знаходзіцца на Замкавай гары ў Вільні, дзе ў той час размяшчаліся царскія войскі. Некаторыя даследаванні паказваюць на гэта, і абмеркаванне дадзенага факту яшчэ наперадзе.

Трэба адзначыць і той факт,  што з 1930 па 1939 гады (як сведчаць фотаздымкі польскіх фатографаў Жданоўскіх) на гары знаходзіўся памятны крыж у гонар паўстанцаў 1863 года. Гэты фотаздымак быў прадэманстраваны шырокай публіцы на фотавыставе "Віленская элегія" (Вільня) у 2009 годзе.

Šiuo metu nėra tiksliai žinoma, kur palaidotas anticarinio 1863 metų sukilimo vadas Kostas Kalinauskas. Daugelis mokslininkų mano, kad jo kapas tikriausiai yra ant Pilies kalno Vilniuje, kur tuomet buvo įsikūrusi caro kariuomenė. Tai rodo kai kurie tyrinėjimai, tačiau diskusija šiuo klausimu dar prieš akis.

Pažymėtina, kad 1930–1939 metais, kaip rodo lenkų fotografų  Żdanowskių nuotrauka, ant kalno stovėjo atminimo kryžius 1863 metų sukilėliams. Ši nuotrauka buvo demonstruojama parodoje „Vilniaus elegija" Vilniuje 2009-aisiais.

Францішак Багушэвіч – беларускі паэт, ідэолаг нацыянальнага беларускага адраджэння, удзельнік паўстання 1863 года, легендарны адвакат. Што яго звязвае з Вільняй?

Францішак нарадзіўся ў фальварку Свіраны (Віленшчына). Пасля атрымання адукацыі далучыўся да антырасійскага паўстання 1863 г. пад кіраўніцтвам Каліноўскага. Быў паранены, пасля чаго вымушаны быў жыць ва Украіне. Скончыў юрыдычны ліцэй. Вярнуўшыся ў Вільню, распачынае актыўную літаратурную і юрыдычную дзейнасць.

Менавіта ў віленскі перыяд Багушэвіч інтэнсіўна разгарнуў сваю літаратурную, публіцыстычную і юрыдычную дзейнасць. Пра яго адвакацкія здольнасці хадзілі легенды. Яго смеласць проста захапляе! У часы, калі Багушэвіч пачаў выдаваць свае творы, на той тэрыторыі беларуская мова была афіцыйна забаронена царскімі ўладамі.

Віленскі акруговы суд, у якім працаваў Францішак Багушэвіч, знаходзіўся ў палацы Тышкевічаў (Trakų 1 – Pylimo 26). Пазней, у 1907 годзе, тут знаходзілася рэдакцыя легендарнай беларускай газеты "Наша Ніва".

На месцы былога дома па вуліцы Арклю (Arklių g.), дзе Францішак Багушэвіч жыў з 1884 па 1898 гады, усталявана ў яго гонар мемарыяльная дошка.

Pranciškus Bohuševičius – gudų poetas, tautinio gudų atgimimo ideologas, 1863 metų sukilimo dalyvis, legendinis advokatas. Kas jį sieja su Vilniumi?

Pranciškus gimė Svironių dvare Vilniaus krašte. Įgijęs išsilavinimą, prisijungė prie antirusiško Kalinausko vadovaujamo 1863 m. sukilimo. Buvo sužeistas, po to priverstas gyventi Ukrainoje. Baigė teisės licėjų. Grįžęs į Vilnių, pradeda aktyvią literatūrinę ir teisinę veiklą.

Būtent Vilniaus laikotarpiu Bohuševičius intensyviai plėtojo savo literatūrinę, publicistinę ir teisinę veiklą. Apie jo, kaip advokato, gebėjimus sklido legendos. Jo drąsa tiesiog pakeri! Tais laikais, kai Bohuševičius pradėjo leisti savo kūrinius, toje teritorijoje gudų kalba buvo oficialiai caro valdžios uždrausta.

Vilniaus apygardos teismas, kuriame dirbo P. Bohuševičius, veikė Tyškevičių rūmuose, dabar Trakų g. 1 / Pylimo g. 26.  Vėliau, 1907-aisiais, čia veikė legendinio gudų laikraščio „Naša niva" redakcija.

Ant pastato, kur kadaise gyveno Pranciškus Bohuševičius (Arklių g.), jo garbei įrengta atminimo lenta.

Мемарыяльная дошка ў гонар Францішка Багушэвіча
Pranciškaus Bohuševičiaus atminimo lenta






Рэдакцыя газеты "Наша Доля"
Laikraščio „Naša Dolia" redakcija

У 1905–1906 гг. Вільня была галоўным цэнтрам і фарпостам усяго актыўнага беларускага рэвалюцыйнага руху пачатку XX ст. Тут пад кантролем Беларускай Сацыялістычнай Грамады (беларуская рэвалюцыйная партыя таго часу) выходзілі нелегальныя агітацыйныя выданні, літаратура і першая легальная беларуская газета “Наша Доля”. Рэдактарам-выдаўцом газеты быў Іван Тукеркес.

“Наша Доля” пачынае выходзіць у 1906 годзе, і ўжо ў 1907 годзе яна была забаронена. Агулам выйшла толькі 6 нумароў газеты.

Дом, у якім працавала рэдакцыя першай легальнай беларускай газеты, знаходзіцца на Віленскай 21 (Vilniaus g. 21).

1905–1906 metais Vilnius buvo pagrindinis viso anų laikų aktyvaus gudų revoliucinio sąjūdžio centras ir forpostas. Čia, kontroliuojant Gudų socialistinei hramadai (revoliucinės anų laikų gudų partijos), buvo spausdinami nelegalūs agitaciniai leidiniai ir literatūra bei pirmasis legalus periodinis gudų laikraštis „Naša Dolia“. Laikraščio redaktorius ir leidėjas buvo Ivanas Tukerkesas.

„Naša Dolia“ pradėta leisti 1906 metais ir jau 1907 metais uždrausta. Iš viso spėta išleisti tik šešis šio laikraščio numerius.

Pirmasis legalus gudų laikraštis buvo leidžiamas name Vilniaus g. 21.




Редакцыя газеты “Наша Ніва” ў 1906 г.
Laikraščio „Naša Niva“ redakcija 1906 m.

J. Basanavičiaus g. 17

“Наша Ніва” – газета, якая дала назву цэламу перыяду беларускай гісторыі. “Нашаніўскай парой” называюць адрэзак беларускай гісторыі, які звязаны з моцным нацыянальным уздымам у грамадска-палітычным, літаратурным і асветніцкім жыцці беларусаў таго часу.

*“Ні думайце, што мы хочам служыць толькі ці панам, ці адным мужыкам. Не, ніколі не! Мы будзем служыць усяму беларускаму скрыўджанаму народу, пастараемся быць люстэркам жыцця, каб ад люстра, свет падаў у цёмнасць <…> Мы з сваёй стараны будзем старацца, каб усе беларусы, што не ведаюць, хто яны ёсць, зразумелі, што яны беларусы і людзі, каб пазналі сваё права і памаглі нам у нашай рабоце…”*

(*Вытрымкі з першага нумара “Нашай Нівы”)*

Першы віленскі адрас, звязаны з газетай, – вул. Басанавічуса 17 (J. Basanavičiaus g. 17). Тут месцілася рэдакцыя “Нашай Нівы” ў 1906 годзе.

„Naša Niva“ (Mūsų dirbama žemė) – tai laikraštis, kurio vardu buvo vadinamas ištisas gudų istorijos laikotarpis. „Našos nivos metai“ – sakoma apie gudų istorijos laikotarpį, glaudžiai susijusį su stipriu tautiniu gudų visuomenės, politikos, literatūros ir švietimo pakilimu.

*„Nemanykit, kad mes norim tarnauti tik vien ponams ar tik vien mužikams. Ne, niekad ne! Tarnausim visai nuskriaustai gudų tautai, stengsimės būti gyvenimo veidrodis, kad nuo veidrodžio į tamsą sklistų šviesa. <...> Savo ruožtu stengsimės, kad visi gudai, nežinantys kas esantys, suprastų esantys gudai ir žmonės, kad pažintų savo teisę ir padėtų mums mūsų darbuose...“*

*(Ištraukos iš pirmojo „Naša Niva“ numerio)*

Pirmasis su šiuo laikraščiu susijęs adresas Vilniuje – J. Basanavičiaus g. 17. Čia „Našos Nivos“ redakcija veikė 1906-aisiais.




Рэдакцыя газеты "Наша Ніва" ў 1907 г.
Laikraščio „Naša Niva" redakcija 1907 m.

Газета "Наша Ніва" мела больш за 3000 карэспандэнтаў-сялян з самых розных куткоў Беларусі. За першыя некалькі гадоў працы газета змясціла на сваіх старонках амаль тысячу карэспандэнцый. Для тысяч беларусаў яна стала першай прачытанай імі газетай, першай крыніцай інфармацыі на зразумелай для іх мове.

У 1907 годзе рэдакцыя "Нашай Нівы" пераехала на новае месца (Pylimo g. 51). У тым жа годзе яна часова знаходзілася і ў палацы Тышкевічаў.

Laikraštis „Naša Niva" turėjo daugiau kaip 3000 korespondentų valstiečių iš įvairiausių Gudijos kampelių. Per keletą pirmųjų veiklos metų „Naša Niva" išspausdino beveik tūkstantį pranešimų. Tūkstančiams gudų šis laikraštis buvo pirmasis jų skaitytas laikraštis ir pirmasis informacijos šaltinis jiems suprantama kalba. 1907-aisiais „Našos Nivos" redakcija persikraustė į patalpas dabartinėje Pylimo g. 51. Laikraščio redakcija 1907-aisiais buvo įsikūrusi ir Tiškevičių rūmuose.

З 1908 па 1910 год рэдакцыя "Нашай Нівы" знаходзілася на Віленскай вул. (Vilniaus g. ) На вялікі жаль, як сведчыць Л. Луцкевіч, гэты дом не захаваўся, бо быў знішчаны ў час II Сусветнай вайны.

Тры гады працы з 1911 па 1913 год былі для рэдакцыі аднымі з самых плённых (Pylimo 5 – дом на скрыжаванні з вул. К. Каліноўскага (K. Kalinausko g. 1). Тут праходзілі самыя розныя мерапрыемствы, у якіх удзельнічалі не толькі беларусы, але і літоўцы. Сярод знакамітых сяброў беларускага адраджэнскага руху тут былі М. Ластаўскене, Л. Гіра, А. Жукаўскас, Ю. Кекштас, О. Міцютэ і іншыя. Добра сябраваў з "Нашай Нівай" і Мікалас Ромерыс.

1908–1910 metais „Našos Nivos" redakcija veikė Vilniaus gatvėje. Deja, kaip rašo L.Luckevičius savo knygoje „Kelionės per Vilnių", šis namas neišliko, buvo sugriautas per karą.

1911–1913 metais „Našos nivos" redakcija veikė name Pylimo g. 5 (šalia dabartinės sankryžos su K. Kalinausko g. 1). Treji darbo šiose patalpose metai buvo vieni iš vaisingiausių. Čia vyko įvairūs renginiai, kur dalyvavo ne tik gudai, bet ir lietuviai. Tarp žinomų gudų atgimimo draugų buvo M. Lastauskienė, L. Gira, A. Žukauskas, J. Kėkštas, O. Miciūtė ir kt. Geras „Naša Niva" draugas buvo ir Mykolas Romeris.




Рэдакцыя газеты "Наша Ніва" ў 1911–1913 гг.
Laikraščio „Naša Niva" redakcija 1911–1913 m.

Апошнім месцам, дзе знаходзілася рэдакцыя беларускай газеты “Наша Ніва” ў Вільні, было Віленская 14 (Vilniaus g. 14). Рэдакцыя газеты пад кіраўніцтвам легендарнага беларускага паэта Янкі Купалы знаходзілася там з 1913 па 1914 год. Цяпер на гэтым месцы знаходзіцца мемарыяльная дошка ў гонар Янкі Купалы і “Нашай Нівы”.

Пасля закрыцця газеты ў 1915 годзе яе паспрабавалі аднавіць у 1920 г., але без поспеху. Толькі ў 1991 годзе газета была адноўлена. Але як ні прыкра пра гэта казаць, і сёння яна з’яўляецца “непажаданай” для ўладаў ужо сучаснай Беларусі.

Paskutinė vieta, kur veikė gudų laikraščio „Naša Niva“ redakcija, buvo Vilniaus g. 14. Legendinio gudų poeto Jankos Kupalos vadovaujamo laikraščio redakcija ten veikė nuo 1913 iki 1914 metų. Dabar toje vietoje kabo atminimo lenta Jankai Kupalai ir „Našai Nivai“ pagerbti.

1915-aisiais laikraštis buvo uždarytas. Jį mėginta gaivinti 1920 m., tačiau nesėkmingai. Tik 1991 metais laikraštis vėl pradėjo eiti. Tačiau, kad ir kaip būtų apmaudu, šiandien jis yra „nepageidautinas“ jau dabartinei Gudijos valdžiai.




Рэдакцыя газеты "Наша Ніва" ў 1913–1914 гг.
Laikraščio „Naša Niva" redakcija 1913–1914 m.




Месца жыхарства Вацлава Ластоўскага (1910–1920 гг.)
Vaclovo Lastouskio gyvenimo vieta (1910–1920 m.)

Pylimo g. 5

Вацлаў Ластоўскі – беларускі грамадска-палітычны дзеяч, пісьменнік, гісторык. У часы Беларускай Народнай Рэспублікі быў яе грамадзянінам, а пасля старшынёй Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі. У канцы 1918 года ўзначаліў прадстаўніцтва ўраду БНР пры літоўскай Тарыбе, быў беларускім аташэ пры літоўскай амбасадзе ў Берліне.

Неацэнным унёскам Ластоўскага ў беларускі нацыянальны рух было яго выданне першай папулярнай “Гісторыі Беларусі”.

Цікавым фактам з’яўляецца і тое, што Вацлаў Ластоўскі быў жанаты з вядомай літоўскай паэткай Лаздзінай Пяледай (Lazdyna Pelėda). Беларуска-літоўская сямейная пара жыла ў Вільні, па ўжо вядомым адрасе (Pylimo g. 5), дзе цяпер усталявана памятная дошка ў гонар Вацлава Ластоўскага.

Vaclovas Lastouskis – gudų visuomenės ir politinis veikėjas, rašytojas, istorikas. Gudijos Liaudies Respublikos laikais buvo jos pilietis, o vėliau – Gudijos Liaudies Respublikos Ministrų Tarybos pirmininkas. 1918 m. pabaigoje Lastouskis tapo GLR atstovu Lietuvos Taryboje, taip pat buvo gudų atašė Lietuvos atstovybėje Berlyne.

Didžiausias Lastouskio nuopelnas Gudijai yra pirmosios populiariosios „Gudijos istorijos“ išleidimas.

Be to, Vaclovas Lastouskis buvo vedęs žinomą lietuvių poetę Lazdynų Pelėdą. Gudo ir lietuvės pora gyveno Vilniuje, mums jau žinomu adresu: Pylimo g. 5. Dabar ant namo Pylimo g. 5 kabo atminimo lenta Vaclovui Lastouskiui.




Мемарыяльная дошка ў гонар Вацлава Ластоўскага
Vaclovo Lastouskio atminimo lenta




Касцёл Св.Міхала. Месца службы Адама Станкевіча
Šv. Mykolo bažnyčia. Adomo Stankevičiaus tarnystės vieta

“Беларуская хрысціянская дэмакратыя” паўстала ў 1917 годзе. Першапачаткова арганізацыя называлася “Беларуская хрысціянская Злучнасць”. Асноўнымі лідэрамі БХД былі ксёндз Адам Станкевіч і Вінцэнт Гадлеўскі. Падчас сваёй дзейнасці ў Вільні сябры БХД выступалі за пашырэнне беларускай нацыянальнай самасвядомасці, культуры і мовы. За сваю дзейнасць чальцы БХД падпалі пад рэпрэсіі з боку польскай, нямецкай і савецкай уладаў. Цяпер вядомыя некаторыя месцы, звязаныя непасрэдна з БХД і некаторымі яе дзеячамі.

Касцёл Святога Мікалая – адзін з самых старажытных касцёлаў Літвы. З’яўляецца культавым месцам для літоўскага культурнага і грамадскага жыцця.

У 1921 годзе польскія ўлады дазволілі беларусам праводзіць тут набажэнствы. У міжваенны час (да 1939 года) тут служылі легендарныя беларускія ксяндзы Адам Станкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Казімір Стэповіч, Язэп Германовіч і інш. Набажэнствы на беларускай мове карысталіся папулярнасцю сярод беларусаў Вільні і вучняў Віленскай беларускай гімназіі.

У гады нацысцкай акупацыі Станкевіч служыў у касцёле Св.Міхала. У 1944 годзе ён быў арыштаваны савецкімі ўладамі. Пасля кароткага перапынку (у 1949 годзе) быў зноў арыштаваны і асуджаны на 25 гадоў. Адбываў сваё пакаранне ў Лукішскай турме, а пасля быў высланы ў Сібір, дзе і памёр.

„Gudų krikščionių demokratija“ iškilo 1917 metais. Iš pradžių organizacija vadinosi „Gudų krikščionių vienybė“. Pagrindiniai GKD lyderiai buvo kunigas Adomas Stankevičius ir Vinsentas Hadleuskis. Per savo veiklą Vilniuje GKD nariai pasisakė už gudų tautinės savimonės, kultūros ir kalbos plėtrą, buvo represuojami lenkų, vokiečių ir sovietų. Dabar žinomos kai kurios vietos, tiesiogiai susijusios su GKD ir kai kuriais jos veikėjais.

Šv. Mikalojaus bažnyčia – viena seniausių bažnyčių Lietuvoje. Yra svarbi lietuvių kultūrinio ir visuomeninio gyvenimo dalis.

1921 m. lenkų valdžia leido gudams rengti pamaldas. Tarpukario metais čia vedė mišias legendiniai gudų kunigai - Adomas Stankevičius, Vinsentas Hadleuskis, Kazimieras Stepovičius, Juozapas Germanovičius ir kiti. Pamaldos gudų kalba buvo populiarios tarp Vilniaus gudų ir Vilniaus gudų gimnazijos mokinių.

Vokiečių okupacijos metu Stankevičius mišias rengė Šv. Mikalojaus bažnyčioje. 1944 m. tarybų valdžios įsakymu buvo areštuotas, bet paleistas. 1949 m. buvo pakartotinai areštuotas ir įkalintas 25 m. Neilgai pabuvęs Lukiškių kalėjime ištremtas į Sibirą, kur greitai mirė.




Касцёл Св. Мікалая. Месца службы Адама Станкевіча
Šv. Mikalojaus bažnyčia. Adomo Stankevičiaus tarnystės vieta

Адам Станкевіч вельмі шмат зрабіў для развіцця беларускай самасвядомасці, культуры і мовы. Мемарыяльная дошка ў яго гонар вісіць на будынку Віленскай беларускай гімназіі. Таксама вядомы дом, дзе жыў А.Станкевіч, – Полацкая 9. (Polocko g. 9).

Adomo Stankevičiaus indėlis į gudų tapatybės, savimonės, kalbos ir kultūros raidą yra neįkainojamas. Ant pastato, kur kadaise buvo Vilniaus gudų gimnazija, jo garbei įrengta atminimo lenta. Žinomas ir namas, kur A. Stankevičius gyveno – Polocko g. 9.

Янка Пазняк – адзін з лідэраў “Беларускай хрысціянскай дэмакратыі”, некаторы час – рэдактар беларускага хрысціянскага часопіса “Крыніца”. Паводле сведчання ўнука Янкі, Пазняка Зянона, дом, дзе жыў яго дзед, захаваўся да сённяшняга часу ( Liejyklos g.1).

Janka Pazniakas – vienas iš „Gudų krikščionių demokratijos“ lyderių, kurį laiką – gudų krikščionių žurnalo „Krynica“ („Šaltinis“) redaktorius. J. Pazniako anūko Zianono teigimu, jo senelis gyveno iki šiol išlikusiame name Liejyklos g. 1.




Дом Янкі Пазняка
Jankos Pazniako namai

Браніслаў Тарашкевіч – знакаміты дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння, мовазнаўца, складальнік беларускай граматыкі. Гэта знакавая фігура для Беларусі. Нарадзіўся на Віленшчыне. Дакладна вядомыя два месцы, звязаныя з гэтай постаццю. У 1921–1922 гг. Б. Тарашкевіч жыве па адрасе Бокшта 21 (Bokšto g. 21). Гэты дом захаваўся і сёння, але ў вельмі занядбаным стане.

Bronislavas Taraškevičius – žinomas gudų tautinio atgimimo veikėjas, kalbininkas, gudų gramatikos sudarytojas. Gudijai – svarbi asmenybė. Gimė Vilniaus krašte. Šiandien tiksliai žinomos dvi su šiuo veikėju susijusios vietos. 1921–1922 m. B. Taraškevičius gyveno Bokšto g. 21. Šis namas išliko ligi šiol, tik yra labai apleistas.

Дом, у якім Б. Тарашкевіч жыў з 1923 па 1926 г. (Vilniaus g. 37), на некалькі гадоў стаў цэнтрам беларускага грамадска-палітычнага руху ў Вільні. Тут працавалі беларускія арганізацыі (Таварыства беларускай школы, Школьная рада, Беларускі студэнцкі саюз), вядомыя беларускія дзеячы культуры, мовы, навукі, мастацтва, сярод якіх былі кампазітар Антон Грыневіч і мастак Язэп Драздовіч.

Nuo 1923 iki 1926 m. B. Taraškevičius gyveno name Vilniaus g. 37. Per kelerius metus ši vieta virto Vilniaus gudų viešojo gyvenimo centru. Čia veikė gudų organizacijos (Gudų mokyklos bendrija, Mokyklos taryba, Gudų studentų sąjunga), lankėsi žinomi gudų kultūros, filologijos, mokslo, meno veikėjai, tarp jų buvo kompozitorius Antanas Grinevičius ir tapytojas Juozapas Drazdovičius.

Дом Браніслава Тарашкевіча (1923–1926 гг.)
Bronislavo Taraškevičiaus namai (1923–1926 m.)






Дом-друкарня Францішка Скарыны
Pranciškaus Skorinos spaustuvė

Выданне беларускіх кніг у Вільні закранае вельмі доўгую гісторыю. Аб гэтым сведчыць выдавецкая дзейнасць Францішка Скарыны, кнігі якога сталі першымі друкаванымі выданнямі ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. У гонар першадрукара ў Вільні ўсталявана мемарыяльная дошка на дзвюх мовах, літоўскай і беларускай (Didžioji g. 19).

Акрамя гэтага, у дворыку дома, дзе жыў Скарына, знаходзіцца скульптура летапісца (скульптар Вацлавас Круцініс, 1973 г.).  Уваход у дворык праз арку са Шкляной вул. (Stiklių g. 4).

Gudų knygų leidyba Vilniuje siekia tolimą praeitį. Galima paminėti kad ir Pranciškus Skorina, dar XVI a. išleidusį čia savo pirmas knygas, kurios tapo apskritai pimos LDK istorijoje. Pirmosios knygos leidėjas Vilniuje, Didžiojoje g. 19, pagerbtas atminimo lenta dviem kalbomis – lietuvių ir gudų.

Be to,  namo, kur gyveno Skorina, kiemelyje, stovi nedidelė jo skulptūra, 1973 metais sukurta lietuvių skulptoriaus Vaclovo Krutinio. Įėjimas į kiemelį iš Stiklių g.




Унутраны дворык друкарні Скарыны
Vidinis Pranciškaus Skorinos spaustuvės kiemas

Пасля таго як у 1906 годзе была адменена забарона выкарыстоўваць беларускую мову, у Вільні была заснавана друкарня Марціна Кухты (Кухта паходзіў з тагачаснай Ковенскай губерні), які актыўна дапамагаў як беларусам, так і літоўцам. Друкарня месцілася непадалёк ад Віленскага ўніверсітэта (Universiteto g. 4). Беларусам яна вядомая тым, што там выдаваліся першыя беларускія газеты "Наша Доля" і "Наша Ніва", а таксама кнігі Я. Коласа, М. Гарэцкага, "Кароткая гісторыя Беларусі" В. Ластоўскага і шматлікія іншыя выданні.

Беларускае выдавецкае таварыства – адзін з найбуйнейшых выдавецкіх асяродкаў беларусаў у Вільні. Кіравалі дзейнасцю Таварыства вядомыя беларускія дзеячы культуры і асветы. Лічыцца, што месцам заснавання Таварыства быў дом, што знаходзіцца па Каштону 5 (Kaštonų g. 5). Выдавецтва мела сваю сталую кнігарню па вул. Пiліма 5 (Pylimo g. 5), а пасля гэтага – у доме каля Вострай Брамы. За час свае працы Беларускае выдавецкае таварыства выдала некалькі дзесяткаў беларускіх кніг.

Kai 1906-aisiais buvo panaikintas draudimas vartoti gudų kalbą, Vilniuje buvo įkurta Martyno Kuktos spaustuvė. Kukta, kilęs iš tuometės Kauno gubernijos, aktyviai talkino ir gudams, ir lietuviams. Spaustuvė veikė netoli Vilniaus universiteto ( Universiteto g. 4). Gudams ši spaustuvė žinoma tuo, kad ten buvo leidžiami pirmieji gudų laikraščiai „Naša Dolia“ ir „Naša Niva“, taip pat ten buvo išleistos J. Kolaso, M. Hareckio knygos, V. Lastouskio „Trumpoji Gudijos istorija“ ir daug kitų leidinių.

Gudų leidėjų draugija – viena stambiausių gudų bendruomenių Vilniuje. Draugijai vadovavo žinomi gudų kultūros ir švietimo veikėjai. Manoma, kad Draugija įsteigta name Kaštonų g. 5. Leidykla turėjo savo knygyną jau žinomu adresu Pylimo g. 5, o vėliau – name prie Aušros Vartų. Per savo veiklos metus Gudų leidėjų draugija išleido keliasdešimt gudų knygų.




Друкарня Марціна Кухты
Martyno Kuktos spaustuvė

Віленскае выдавецтва Барыса Клецкіна выдавала пераважна габрэйскую літаратуру, але пасля таго як Антон Луцкевіч (“бацька” беларускай незалежнасці) дамовіўся пра супрацу з ім, то за невялікі адрэзак часу ўдалося выдаць больш за 30 рознага кшталту выданняў, сярод якіх былі кнігі такіх аўтараў, як А. Смоліч, М. Багдановіч, М. Гарэцкі, Ш. Ядвігін, Н. Арсеннева, С. Рак-Міхайлоўскі і шматлікія іншыя. Гэты дом (Raugyklos g. 23) захаваўся, толькі сёння тут знаходзіцца зусім іншая ўстанова, рэлігійнага характару.

Vilniaus Boriso Kleckino leidykla leido daugiausia žydų literatūrą, tačiau Antonui Luckevičiui (Gudijos nepriklausomybės „tėvui“) sutarus dėl bendradarbiavimo, per trumpą laiką pavyko išleisti daugiau kaip 30 įvairios pakraipos leidinių, tarp jų – A. Smoličiaus, M. Bahdanovičiaus, M. Hareckio, Š. Jadvihino, N. Arsenjevos, S. Rak-Michailouskio ir kitų autorių kūrinių. Namas, kur buvo leidykla, išliko (Raugyklos g. 23), tik dabar ten įsikūrusi religinio pobūdžio įstaiga.

Выдавецтва Барыса Клецкіна
Boriso Kleckino leidykla



Вельмі важнай для беларусаў таго часу была і бібліятэка віленскага мецэната Барыса Даніловіча. У 1914 годзе бібліятэка была перададзена ў распараджэнне Антона Луцкевіча, і можна лічыць, што з таго моманту яна ўвайшла ў літаратурную скарбніцу беларускага нацыянальнага руху. Вядомыя некалькі адрасоў бібліятэкі, бо ў розныя гады яна знаходзілася ў розных будынках, але спынімся на адным з першых, які знаходзіцца на праспекце Гедыміна 2 (Gedimino pr. 2). Тут яна знаходзілася з 1907 па 1911 год.

Labai svarbi tų laikų gudams buvo ir Vilniaus mecenato Boriso Danilovičiaus biblioteka. Joje buvo saugomi literatūros lobynai. 1914-aisiais biblioteka perduota valdyti Antanui Luckevičiui ir, galima manyti, nuo to laiko  pateko į gudų tautinio sąjūdžio literatūrinį lobyną. Žinomi keli bibliotekos adresai, tačiau apsistokime viename pirmųjų: Gedimino pr. 2. Šiuo adresu biblioteka veikė nuo 1907 iki 1911 metų.




Бібліятэка Барыса Даніловіча
Boriso Danilovičiaus biblioteka

Яшчэ адным важным месцам для беларусаў першай паловы XX ст. была друкарня імя Францішка Скарыны. Варта дадаць, што гэта была сапраўды адна з нешматлікіх менавіта беларускіх друкарняў у Вільні. Гэтай друкарняй кіравалі чальцы БХД. Акрамя перыядычных выданняў – “Беларуская крыніца”, “Хрысціянская Думка”, “Калоссе” – было выдадзена больш за 100 розных беларускіх кніг. Друкарня імя Ф. Скарыны – адна з найбольш паспяховых тагачасных беларускіх друкарняў. Першапачаткова яна знаходзілася ў доме беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў (Liejyklos g. 1). У 1930 годзе друкарня пераязджае ў іншае месца (Pylimo g. 6) . Апошнім месцам знаходжання друкарні імя Ф.Скарыны быў дом таксама на вул.Піліма (Pylimo g.), які сёння не захаваўся.

Dar viena gudams svarbi vieta XX a. pirmojoje pusėje buvo Pranciškaus Skorinos spaustuvė. Tai buvo viena iš nedaugelio gudiškų Vilniaus spaustuvių. Jai vadovavo GKD nariai. Be periodinių leidinių – „Belaruskaja krynica“, „Chryscijanskaja dumka“, „Kalosse“ (Gudų šaltinis, Krikščionių mintis, Varpos) – joje buvo išleista daugiau kaip šimtas įvairių gudų knygų. P.Skorinos spaustuvė – viena sėkmingesnių anų laikų gudų leidyklų. Iš pradžių ji veikė Liejyklos g. 1, gudų krikščionių demokratų namuose. 1930-aisiais spaustuvė persikraustė į Pylimo g. 6. Paskutiniu spaustuvės prieglobsčiu tapo iki mūsų laikų neišlikęs namas Pylimo g.




Друкарня імя Францішка Скарыны
Pranciškaus Skorinos spaustuvė

Вядома, што ў доме, які сёння знаходзіцца па вул. Майронё 4 (Maironio g. 4), у 20-я гады XX ст. ладзіліся шматлікія беларускія імпрэзы. Там спыняліся знакамітыя беларускія дзеячы. Беларускі народны дом займаў першы паверх гэтага будынка. Некаторы час тут знаходзілася Таварыства беларускай школы і працавала беларуская настаўніцкая семінарыя.

Žinoma, kad name, kurio dabartinis adresas Maironio g. 4, trečiąjį XX a. dešimtentį rengti įvairiausi gudų renginiai. Ten apsistodavo garsieji gudų veikėjai. Gudų tautos namai užėmė pirmą šio pastato aukštą. Kurį laiką čia veikė Gudų mokyklos draugija ir Gudų mokytojų seminarija.

Мемарыяльная дошка ў гонар Рыгора Шырмы
Ryhoro Šyrmos atminimo lenta



Рыгор Шырма – яшчэ адна знакавая постаць для беларусаў. Фальклярыст, публіцыст, літаратуразнаўца, найвядомейшы музычны і грамадскі дзеяч. Лёс Шырмы таксама звязаны з Вільняй. Нарадзіўшыся ў Берасцейскай вобласці (Беларусь), ён перабіраецца жыць і працаваць у Вільню. Значна дапамагае беларускаму нацыянальнаму руху, за што і расплочваецца пры польскай акупацыі: два гады быў вымушаны правесці ў сумнавядомай Лукішскай турме. Мемарыяльная дошка ў гонар Шырмы ўсталявана на доме, дзе жыў Шырма з сям'ёй (Maironio g. 13).

Ryhoras Šyrma – dar viena garsi gudų asmenybė. Tautosakininkas, publicistas, literatūrologas, itin žinomas muzikos ir visuomenės veikėjas. Šyrmos likimas taip pat susijęs su Vilniumi. Gimęs Bresto sr. (Gudija), jis persikrausto gyventi ir dirbti į Vilnių. Labai padeda gudų tautiniam sąjūdžiui, už ką ir nukenčia per lenkų okupaciją. Lenkijos režimo laikais Šyrma dvejus metus priverstas kalėti liūdnai pagarsėjusiame Lukiškių kalėjime. Šiandien Vilniuje ant namo Maironio g. 13 sienos, kur gyveno Šyrma ir jo šeima, įrengta atminimo lenta Šyrmai pagerbti.




Дом Рыгора Шырмы, спраектаваны Л. Вітан-Дубейкаўскім
L. Vitan-Dubeikauskio suprojektuotas Ryhoro Šyrmos namas

Лявон Вітан-Дубейкаўскі – вядомы беларускі архітэктар, інжынер, грамадскі дзеяч, паэт і педагог. Гэты чалавек атрымаў будаўнічую спецыяльнасць у Варшаве, Пецярбургу і Парыжы. У 1920-х гадах Л. Вітан-Дубейкаўскі актыўна займаецца будаўнічымі працамі ў Вільні. Стала супрацоўнічаў з газетай "Беларускі фронт", што падтрымлівала ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі. Да спадчыны Лявона Вітан-Дубейкаўскага ў Вільні адносіцца ўжо згаданы дом, у якім жыў Рыгор Шырма (Maironio g. 13), а цяпер знаходзіцца шыкоўны гатэль, а таксама гарадская забудова ў раёне касцёла Пятра і Паўла.

Таксама захавалася яго прыватная сядзіба недалёка ад Старога горада (Pakalnės g. 4). У гэтым доме ён жыў з 1926 па 1940 год. Некаторы час тут жыў і Вацлаў Іваноўскі, а частымі гасцямі былі Адам Станкевіч, Мікола Шкалёнак і іншыя дзеячы беларускага нацыянальнага руху.

Liavonas Vitan-Dubeikauskis – žinomas gudų architektas, inžinierius, poetas, dėstytojas. Jis įgijo statybinį išsilavinimą Varšuvoje, Peterburge ir Paryžiuje. Trečiąjį XX a. dešimtmetį L.Vitan-Dubeikauskis Vilniuje aktyviai ėmėsi statybos darbų. Nuolat bendradarbiavo su laikraščiu „Belaruski front", kuris palaikė Gudijos Liaudies Respublikos idealus. L.Vitan-Dubeikauskio autorystei Vilniuje priskiriamas namas Maironio g. 13, kuriame gyveno Ryhoras Šyrma, o dabar yra prabangus viešbutis, taip pat kvartalas šalia Petro ir Povilo bažnyčios.

Yra išlikusi jo privati sodyba netoli Senamiesčio, Pakalnės g. 4. Joje L.Vitan-Dubeikauskis gyveno 1926-1940 m. Čia kurį laiką gyveno ir Vaclovas Ivanouskis, o dažni svečiai buvo Adomas Stankevičius, Mikalojus Škalionokas ir kiti nacionalinio gudų judėjimo veikėjai.




Комплекс жылых пабудоў архітэктара Дубейкаўскага
Architekto L. Vitan-Dubeikauskio suprojektuotas gyvenamųjų namų komplesas

Сядзіба Лявона Вітан-Дубейкаўскага
Liavono Vitan-Dubeiskauskio sodyba






Месца жыхарства П. Сергіевіча ў міжваенны час
Vieta, kur P. Serhijevičius gyveno tarpukariu

Калі казаць пра творчую беларускую інтэлігенцыю таго часу, то нельга абмінуць імя найвыдатнейшага мастака Пятра Сергіевіча. Пераехаўшы ў Вільню юнаком, ён закончыў Віленскі ўніверсітэт і назаўжды звязаў сваё жыццё з Вільняй. Гэты горад даў яму ўсё. Сергіевіч актыўна ўдзельнічаў у беларускім нацыянальным руху, плённа працаваў на карысць Беларусі. З яго імем звязаны наступныя адрасы: вул. Паменкальнё 32 (Pamėnkalnio g. 32), дзе ён жыў у міжваенны час, і  вул.Антокальская 30 (Antakalnio g. 30), дзе Сергіевіч жыў з 1940-х гадоў да канца жыцця.

Kalbant apie kūrybinę anų laikų gudų inteligentiją, negalima nepaminėti žymaus tapytojo Petro Serhijevičiaus. Persikėlęs į Vilnių dar jaunas, baigęs mokslus Vilniaus universitete, šis žinomas tapytojas visam laikui susiejo gyvenimą su Vilniumi. Šis miestas davė jam viską. Serhijevičius aktyviai dalyvavo gudų tautiniame sąjūdyje, vaisingai dirbo Gudijos labui. Su Serhijevičiumi susijusios kelios vietos. Tarpukariu jis gyveno Pamėnkalnio g. 32. Penktąjį dešimtmetį persikraustė į Antakalnį, kur Antakalnio g. 30 name nugyveno iki pat mirties.




Месца жыхарства П. Сергіевіча з 40-х гадоў XX ст.
Vieta, kur P. Serhijevičius gyveno nuo ketvirtojo XX a. dešimtmečio

Базыльянскія муры – месца, якое вядзе сваю гісторыю ад часоў Вялікага Княства Літоўскага. Першая хрысціянская пабудова з'явілася тут яшчэ пры вялікім князе Альгердзе. Пазней вялікі гетман літоўскі Канстанцін Астрожскі пабудаваў тут праваслаўную царкву ў выкананне свайго абяцання, калі Бог дасць яму перамогу над Масковіяй у бітве пад Оршай. Астрожскі сваё слова стрымаў. Пасля Берасцейскай царкоўнай уніі гэтыя муры былі перададзены ордэну базыльянаў. Мяркуецца, што адсюль і пайшла іх сучасная назва. У перыяд Расійскай імперыі тут быў астрог, дзе ўтрымлівалі славутых філаматаў і філарэтаў Віленскага ўніверсітэта. З пачатку XX ст. у мурах пачынаецца актыўнае беларускае нацыянальнае жыццё.

„Bazilijonų mūrai“ – vieta, menanti dar LDK laikus. Pirmasis krikščioniškas statinys čia iškilo dar valdant didžiajam kunigaikščiui Algirdui. Vėliau didysis LDK etmonas Kostas Ostrogiškis pastatė čia stačiatikių cerkvę, tesėdamas įžadą pastatyti cerkvę, jegu Dievas jam duosiąs pergalę prieš Maskvą prie Oršos. K. Ostrogiškis laikėsi savo žodžio. Po bažnytinės Bresto unijos pastatas buvo perduotas Bazilijonų ordinui. Manoma, kad iš čia ir kilo jo dabartinis pavadinimas. Rusijos imperijos laikais čia būta kalėjimo, kur kalino garsius Vilniaus universiteto filomatus ir filaretus. Nuo XX a. bazilijonų pastatuose prasideda aktyvus tautinis gudų gyvenimas.




Унутраны дворык Віленскай беларускай гімназіі
Vidinis Vilniaus gudų gimnazijos kiemas

У будынках Базыльянскіх муроў працавала знакамітая Віленская беларуская гімназія. Гэта адукацыйная ўстанова была сапраўднай кузняй нацыянальных кадраў для ўсёй Беларусі. Са сцен гімназіі выйшла безліч вядомых дзеячаў культуры, мастацтва, палітыкі.

Сёння на былым будынку Віленскай беларускай гімназіі знаходзяцца мемарыяльныя дошкі літаратара, дзеяча нацыянальнага беларускага адраджэння Максіма Гарэцкага, беларускай паэткі і перакладчыцы Наталлі Арсенневай, а таксама ксяндза  Адама Станкевіча.

На ўваходзе ў Базыльянскую браму вісіць мемарыяльная дошка выбітнаму дзеячу навукі і культуры Ігнату Дамейку, чалавеку, якім ганарыцца Беларусь, Польшча, Літва і Чылі.

Bazilijonų mūrų pastatuose veikė garsioji Vilniaus gudų gimnazija. Ši švietimo įstaiga buvo tikra tautinių kadrų kalvė visai Gudijai. Gimnazija išugdė begalę garsių kultūros, menų, politikos veikėjų.

Šiandien ant buvusio Vilniaus gudų gimnazijos pastato kabo atminimo lentos literatui, tautinio gudų atgimimo veikėjui Maksimui Hareckiui ir gudų poetei bei vertėjai Nataljai Arsenjevai, kunigui Adomui Stakevičiui.

Įeinant pro Bazilijonų vartus kairėje pusėje įrengta atminimo lenta garsiam mokslo ir kultūros veikėjui Ignotui Domeikai, žmogui, kuriuo didžiuojasi Gudija, Lietuva, Lenkija ir Čilė, pagerbti.



Мемарыяльная дошка ў гонар Наталлі Арсенневай
Nataljos Arsenjevos atminimo lenta




Мемарыяльная дошка ў гонар Максіма Гарэцкага
Maksimo Hareckio atminimo lenta

Акрамя гімназіі, у Базыльянскіх мурах знаходзіліся: Віленскі беларускі музей імя Івана Луцкевіча (утрымліваў багацейшую калекцыю прадметаў гісторыі, мастацтва і літаратуры беларускага народа), Беларускае навуковае таварыства (першая беларуская навуковая ўстанова, што праводзіла даследаванні ў галіне гісторыі, літаратуры, мовы, этнаграфіі), тэатральная майстроўня Францішка Аляхновіча і шэраг іншых інстытуцый. Увогуле, раздзел беларускай гісторыі, звязаны з Базыльянскімі мурамі, патрабуе больш грунтоўнага вывучэння і заслугоўвае асобнага выдання. Важна адзначыць толькі той факт, што гэта месца адыгрывала значную ролю ў жыцці не толькі беларускага асяродку, але і ўсёй Вільні.

Bazilijonų mūruose taip pat buvo įsikūrę Ivano Luckevičiaus vardu pavadintas Vilniaus gudų muziejus (muziejus turėjo ypatingai turtingą gudų liaudies istorinių daiktų, meno ir literatūros kolekciją), Gudų mokslinė draugija (pirma gudų mokslininkų draugija, tyrusi istoriją, kalbas, literatūrą ir etnografiją), garsaus gudų dramaturgo Pranciškaus Aliachnovičiaus teatro dirbtuvės ir kitos gudų organizacijos. Apskritai su Bazilijonų mūrais susijęs gudų istorijos tarpsnis reikalauja išsamesnio tyrimo ir yra vertas atskiro leidinio. Minėtinas tik tas faktas, kas ši vieta vaidino esminį vaidmenį ne tik gudų aplinkos, bet ir viso Vilniaus gyvenime.

Мемарыяльная дошка ў гонар Ігната Дамейкі
Ignoto Domeikos atminimo lenta







Мемарыяльная дошка ў гонар Адама Станкевіча
Adamo Stankevičiaus atminimo lenta

“Паўлінка” – гэта камедыя, аўтарам якой з’яўляецца класік беларускай літаратуры Янка Купала. Доўгі час Я. Купала жыў і працаваў у Вільні (і нават адна з вуліц насіла раней яго імя). Камедыя “Паўлінка” была ўпершыню пастаўлена на вялікай сцэне ў віленскім Доме настаўніка (Vilniaus g. 39).

Гэта стала магчымым дзякуючы высілкам віленскага беларускага музычна-драматычнага гуртка, у які ўваходзіў шэраг вядомых беларускіх дзеячаў культуры. Акрамя гэтага, з беларускім музычна-драматычным гуртком стала супрацоўнічаў “патрыярх літоўскай незалежнасці” Ёнас Басанавічус. Прэм’ера спектакля адбылася ў 1913 годзе. На ёй прысутнічаў і сам аўтар – Янка Купала.

„Paulinka“ – komedija, kurios autorius – legendinis gudų rašytojas Janka Kupala. Kupala ilgai gyveno ir dirbo Vilniuje (viena gatvė Žvėryne buvo pavadinta jo vardu). Komedija „Paulinka“ pirmą kartą didžiojoje scenoje buvo pastatyta Vilniaus mokytojų namuose, Vilniaus g. 39.

Komedija pastatyta Vilniaus gudų muzikos ir dramos būrelio pastangomis. Būrelis vienijo iškilius gudų kultūros veikėjus. Be to, su būreliu glaudžiai bendradarbiavo Lietuvos nepriklausomybės patriarchas Jonas Basanavičius. Spektaklio premjera įvyko 1913 metais. Joje dalyvavo ir pats autorius – Janka Kupala.

Цікавым месцам для беларусаў з’яўляецца і будынак на Віленскай вуліцы (Vilniaus g. 41). Сёння ў ім знаходзіцца Літоўскі музей музыкі, тэатра і кіно. У 1920–1930-х гадах тут доўгі час працаваў Беларускі кааператыўны банк пад кіраўніцтвам беларускага праваслаўнага святара Аляксандра Каўша і знаходзіліся некаторыя беларускія арганізацыі: аб’яднанне пчалаводаў “Пчала”, беларуская студэнцкая арганізацыя “Беларускі студэнцкі саюз”, рэдакцыя часопісаў “Заранка”, “Саха” і “Маланка”. Акрамя гэтага, у 1920-х гадах у гэтым доме  жыў адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху XX ст. Антон Луцкевіч.

Įdomu gudams turėtų būti aplankyti ir pastatą Vilniaus g. 41. Šiandien čia veikia Lietuvos muzikos, teatro ir kino muziejus. O trečiąjį – ketvirtąjį XX a. dešimtmečiais čia buvo su gudų tautiniu judėjimu tiesiogiai susijusi įstaiga. Čia ilgai veikė Gudų kooperacinis bankas, vadovaujamas gudų stačiatikių kunigo Aliaksandro Koušo. Čia taip pat veikė kelios gudų organizacijos: bitininkų draugija „Pčala“, gudų studentų organizacija „Belaruski studencki sajuz“, žurnalų „Zaranka“, „Sacha“ ir „Malanka“ redakcijos. Trečiąjį XX a. dešimtmetį šiame name gyveno vienas iš XX a. gudų nacionalinio judėjimo pradininkų Antonas Luckevičius.




Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры
Gudų ūkio ir kultūros institutas

У будынку, які сёння займае адзін з самых дарагіх гатэляў Вільні, з 1926 па 1936 год знаходзіўся Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (Aušros Vartų g. 6).

Інстытут займаўся падтрымкай і развіццём сельскай гаспадаркі, народных рамёстваў, беларускай духоўнай культуры, беларускай асветы і мовы. Пры ім дзейнічала тэатральная секцыя Пятра Булгака, працавала бібліятэка. З дапамогай беларускай друкарні імя Францішка Скарыны Інстытут выдаў больш за дзесяць кніг вядомых беларускіх аўтараў.

Pastate, kuriame dabar įsikūręs vienas prašmatniausių Vilniaus viešbučių, 1926-1936 m. veikė Gudų ūkio ir kultūros institutas (Aušros Vartų g. 6).

Institutas rėmė žemės ūkio ir liaudies amatus, palaikė dvasinę kultūrą, gudų kalbą ir švietimą. Prie instituto veikė biblioteka ir Petro Bulhako teatro būrelis. Kartu su Pranciškaus Skorinos spaustuve institutas išleido daugiau kaip dešimties garsių gudų autorių knygų.

Могілкі Росы – адзін з найстаражытнейшых некропаляў Вільні. Гісторыя могілак пачынаецца ад першых гадоў XIX ст.

На могілках Росы свой апошні прыстанак знайшлі сотні вядомых людзей розных нацыянальнасцяў, у тым ліку і беларусаў.

Для таго, каб распавесці пра ўсіх людзей, што адыгрывалі тую альбо іншую ролю ў беларускай гісторыі, а пасля былі  пахаваны тут, патрэбна асобнае выданне і гады даследаванняў.

У гэтым выданні адлюстраваны жыццяпісы самых вядомых беларускіх дзеячаў, якія знайшлі свой апошні шлях на Росах.

Rasos – vienos seniausių Vilniaus kapinių. Jų istorija siekia pačią XIX a. pradžią.

Rasose paskutinį prieglobstį rado šimtai įžymių įvairių tautybių žmonių, taip pat gudų.

Norint papasakoti apie visus čia palaidotus Gudijos istorijoje žymesnį vaidmenį suvaidinusius žmones, reikėtų atskiro leidinio ir ilgų tyrinėjimų.

Šiame leidinyje pateiksime pačių žinomiausių Rasose besiilsinčių gudų veikėjų biografijas.

# Беларускія пахаванні
# Gudų palaidojimai

1. Францішак Аляхновіч \ Pranciškus Aliachnovičius
2. Лявон Вітан-Дубейкаўскі \ Liavonas Vitan-Dubeikauskis
3. Галіна Война \ Halina Voicik
4. Антон Луцкевіч \ Antanas Luckevičius
5. Іван Луцкевіч \ Ivanas Luckevičius
6. Лявон Луцкевіч \ Liavonas Luckevičius
7. Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.) \ Antanas Liavickis (Jadvihin Š.)
8. Уладзіслаў Паўлюкоўскі (Улад Ініцкі) \ Vladislovas Pauliukouskis (Vladas Inickis)
9. Станіслаў Станкевіч \ Stanislovas Stankevičius
10. Альбін Стэповіч \ Albinas Stepovičius
11. Канстанцін Стэповіч (Казімір Сваяк) \ Kanstantinas Stepovičius (Kazimieras Svajakas)
12. Уладзіслаў Талочка \ Vladislovas Taločka
13. Яўстах Тышкевіч \ Jaustachas Tyškevičius
14. Людвіка Ямант \ Liudvika Jamant
15. Аляксандр Аскерка \ Aliaksandras Askerka

## Францішак Аляхновіч
09.03.1883 – 03.03.1944

Беларускі грамадскі дзеяч, драматург, пісьменнік, журналіст.

Стваральнік першага беларускага тэатра. Аўтар шматлікіх п'есаў, а таксама драмаў і камедый.

Выдаваў часопіс "Perkūnas". Быў рэдактарам газеты "Беларускае жыццё". Аўтар кнігі "Беларускі тэатр", а таксама твора "У кіпцюрох ГПУ". Адзін з заснавальнікаў Таварыства беларускай школы.

З-за антыдзяржаўных публікацый неаднаразова трапляе пад следства і рэпрэсіі. У студзені 1927 года асуджаны на 10 гадоў зняволення і трапляе ў лагер на Салаўкі. У 1944 годзе трагічна гіне ад куляў невядомых каля сваёй кватэры ў Вільні.

На могілках Росы знаходзіцца сімвалічная магіла Францішка Аляхновіча.

## Pranciškus Aliachnovičius
1883 03 09 – 1944 03 03

Gudų visuomenės veikėjas, dramaturgas, rašytojas, žurnalistas.

Pirmojo gudų teatro kūrėjas, daugelio pjesių, taip pat dramų ir komedijų autorius.

Leido žurnalą „Perkūnas", redaktoriavo laikraštyje „Bielaruskaje žyccio". Knygų „Gudų teatras", „Siedem lat w szponach G.P.U.", kūrinio „GPU gniaužtuose" autorius. Vienas iš Gudų mokyklos draugijos įkūrėjų.

Dėl antivalstybinių publikacijų ne kartą tikrintas ir represuotas. 1927-ųjų sausį nuteistas kalėti 10 metų Solovkų stovykloje. 1944-aisiais nežinomo asmens buvo nušautas prie savo buto durų.

Rasų kapinėse yra simbolinis Pranciškaus Aliachnovičiaus kapas.




Лявон Вітан-Дубейкаўскі
Liavonas Vitan-Dubeikauskis

## Лявон Вітан-Дубейкаўскі
07.07.1869 – 06.11.1940

Беларускі архітэктар, грамадска-палітычны дзеяч, паэт, педагог. Будаўнічую спецыяльнасць атрымаў у Варшаве. Скончыў Пецярбургскі інстытут цывільных інжынераў і Французскую акадэмію архітэктуры.

Чытаў лекцыі па архітэктуры ў Гародні і Вільні. Быў дырэктарам мулярскай школы.

У беларускім нацыянальным руху актыўна супрацоўнічаў з Беларускай нацыял-сацыялістычнай партыяй, з ксёндзам Вінцэнтам Гадлеўскім. Узначальваў Беларускі камітэт у Варшаве. Быў сябрам рэдакцыйнай калегіі газеты "Беларускі Фронт".

## Liavonas Vitan-Dubeikauskis
1869 07 07 – 1940 11 06

Gudų architektas, visuomenės ir politikos veikėjas, poetas, pedagogas. Statybininko išsilavinimą gavo Varšuvoje. Baigė Peterburgo civilinių inžinierių institutą ir Prancūzijos architektūros akademiją.

Dėstė architektūrą Gardine ir Vilniuje, direktoriavo dažytojų mokykloje.

Gudų tautiniame sąjūdyje aktyviai bendradarbiavo su Gudų nacionalsocialistų partija ir kunigu Vincentu Hadleuskiu. Vadovavo Gudų komitetui Varšuvoje. Buvo laikraščio „Bielaruski front" redakcinės kolegijos narys.




Галіна Войцік і Лявон Луцкевіч
Halina Voicik ir Liavonas Luckevičius

## Галіна Войцік
## 01.07.1927 – 13.08.2007

Беларуская грамадская дзяячка, педагог, спецыяліст у гісторыі нямецкай мовы. Выпускніца Віленскай беларускай гімназіі і Віленскага ўніверсітэта. Выкладчыца Віленскага педагагічнага ўніверсітэта. Аўтар кніг серыі “Партрэты віленчукоў” і рукапіснай кнігі “Там, дзе мяне няма”. З 1997 г. – галоўны рэдактар беларускай культурна-асветніцкай перадачы на Літоўскім нацыянальным радыё.

## Лявон Луцкевіч
## 17.03.1922 – 28.07.1997

Беларускі грамадскі і культурны дзеяч, педагог.

Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Падчас нямецкай акупацыі Вільні працаваў настаўнікам. Удзельнік антыкамуністычнага падполля. Адбываў пакаранне на Калыме.

Беларускі адраджэнец новай хвалі. Актыўны ўдзельнік беларускага нацыянальнага адраджэння ў Вільні ў 80-х гадах. Адзін з заснавальнікаў Таварыства беларускай культуры ў Літве і Таварыства беларускай школы ў Літве, галоўны рэдактар беларускай культурна-асветніцкай перадачы на Літоўскім нацыянальным радыё. Аўтар кнігі “Вандроўкі па Вільні”.

## Halina Voicik
## 1927 07 01 – 2007 08 13

Gudų visuomenės veikėja, pedagogė, vokiečių kalbos istorijos specialistė.

Vilniaus gudų gimnazijos ir Vilniaus universiteto auklėtinė. Vilniaus pedagoginio universiteto dėstytoja. Rankraščių „Vilniečių portretai“ ir „Ten, kur manęs nėra“ autorė. Nuo 1997-ųjų dirbo pagrindine Lietuvos radijo gudų kultūros ir švietimo laidų redaktore.

## Liavonas Luckevičius
## 1922 03 17 – 1997 07 28

Gudų visuomenės ir kultūros veikėjas, pedagogas.

Baigė Vilniaus gudų gimnaziją. Per vokiečių okupaciją Vilniuje mokytojavo. Antikomunistinio pogrindžio dalyvis. Buvo ištremtas į Kolymą.

Naujos bangos gudų atgimimo veikėjas. Aktyvus XX a. devintojo dešimtmečio gudų tautinio atgimimo Vilniuje dalyvis. Vienas Gudų kultūros draugijos Judu mokyklos drangijos Lietuvoje steigėjų. Knygos „Kelionės po Vilnių“ autorius.




Антон Луцкевіч і Іван Луцкевіч
Antanas Luckevičius ir Ivanas Luckevičius

## Антон Луцкевіч
30.01.1884 – 23.03.1942

Адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху ў XX ст., гісторык, літаратуразнаўца, публіцыст, міністр замежных спраў Беларускай Народнай Рэспублікі.

Адзін з заснавальнікаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады ў 1903 годзе. Арыштаваны ў 1905 годзе. У 1916 г. заснаваў Беларускую сацыял-дэмакратычную работніцкую групу. З 1918 г. – сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Узначальваў Беларускі народны камітэт у Вільні (1916–1919), быў старшынёй Віленскай Беларускай рады (1918–1919). Адзін з ініцыятараў абвяшчэння незалежнасці БНР (Акт 25 сакавіка 1918 г.). З кастрычніка 1918 г. па люты 1920 г. старшыня Рады народных міністраў БНР, народны міністр замежных спраў.

Выступаў як крытык, літаратуразнаўца, публіцыст і перакладчык. Адзін з заснавальнікаў і фактычных кіраўнікоў газет «Наша Доля» і «Наша Ніва».

На могілках Росы знаходзіцца яго сімвалічнае пахаванне.

## Antanas Luckevičius
1884 01 30 – 1942 03 23

Vienas iš XX a. gudų tautinio sąjūdžio pradininkų, istorikas, literatūrologas, publicistas, Gudijos Liaudies Respublikos užsienio reikalų ministras.

Vienas iš Gudų socialistų hramados steigėjų 1903-aisiais. Areštuotas 1905-aisiais. 1916-aisiais įsteigė Gudų socialdemokratų darbininkų grupę. Nuo 1918-ųjų – Gudų socialdemokratų partijos narys. Vadovavo Gudų liaudies komitetui Vilniuje (1916–1919), buvo Vilniaus gudų tarybos pirmininku (1918–1919). Vienas iš Gudijos Liaudies Respublikos nepriklausomybės paskelbimo iniciatorių (1918-ųjų kovo 25-osios Aktas). Nuo 1918-ųjų spalio iki 1920-ųjų vasario buvo GLR Liaudies ministrų tarybos pirmininku, užsienio reikalų liaudies ministru.

Dirbo kritiku, literatūrologu, publicistu, vertėju. Buvo vienas laikraščių „Naša Dolia“ ir „Naša Niva“ steigėjų ir faktinių vadovų.

Rasų kapinėse – jo simbolinė kapavietė.

## Іван Луцкевіч
28.05.1881 – 20.08.1919

Адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху XX ст., беларускі археолаг і этнолаг, калекцыянер.

Адзін са стваральнікаў Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады ў Пецярбургу, актыўны ўдзельнік рэвалюцыйных дзеянняў Беларускай Сацыялістычнай Грамады ў Мінску. З'яўляўся адным з ініцыятараў выдання беларускіх газет "Наша Доля", "Наша Ніва", "Гоман", а таксама стварэння беларускіх выдавецтваў.

Іван Луцкевіч з братам Антонам былі ініцыятарамі стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Ініцыятар стварэння Віленскай беларускай гімназіі ў Вільні. Заснавальнік збору Віленскага беларускага музея.

Цяжка хварэў на сухоты. Лячэнне на курорце ў польскіх Закапанах не дапамагло, і ў 1919 годзе Іван Луцкевіч памёр. Прах Івана Луцкевіча, прывезены з Польшчы ў 1991 г., быў перазахаваны на віленскіх могілках Росы.

## Ivanas Luckevičius
1881 05 28 – 1919 08 20

Vienas iš XX a. gudų tautinio sąjūdžio pradininkų, gudų archeologas ir etnologas, kolekcionierius. Vienas iš Gudų revoliucinės hramados Peterburge įkūrėjų, aktyvus Gudų socialistų hramados revoliucinių veiksmų Minske dalyvis. Vienas iš gudų laikraščių „Naša Dolia“, „Naša Niva“ ir „Homan“ leidimo, taip pat gudų leidyklų įsteigimo iniciatorių.

Ivanas Luckevičius kartu su broliu Antonu buvo Gudijos Liaudies Respublikos pradininkai.

Vilniaus gudų gimnazijos įkūrimo Vilniuje iniciatorius, pagrindinis Vilniaus gudų muziejaus sudarytojas.

Sunkiai sirgo džiova. Gydymas Lenkijos Zakopanės kurorte nepadėjo, 1919-aisiais Ivanas Luckevičius mirė. Jo palaikai parvežti iš Lenkijos 1991-aisiais ir perlaidoti Rasose.




Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.)
Antanas Liavickis (Jadvihin Š.)

## Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.)
## 04.01.1869 – 24.02.1922

Беларускі публіцыст, празаік і драматург.

Вучыўся на медыцынскім факультэце Маскоўскага ўніверсітэта, за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях у 1890 г. быў арыштаваны і выключаны з універсітэта. Адбываў тэрмін ў Бутырскай турме.

У 1909–1910 гг. жыў у Вільні, некаторы час працаваў сакратаром, затым загадчыкам літаратурнага аддзела «Нашай Нівы». Працаваў у рэдакцыі газеты “Беларус”. Быў тэхнічным рэдактарам беларускага сельскагаспадарчага часопіса «Саха» і беларускага часопіса для дзяцей і моладзі «Лучынка» ў Мінску.

Аўтар перакладаў на беларускую мову зборнікаў апавяданняў, шэрагу рэцэнзіяў і літаратурна-крытычных артыкулаў. Застаўся няскончаным яго раман “Золата”.

## Antanas Liavickis (Jadvihin Š.)
## 1869 01 04 – 1922 02 24

Gudų publicistas, prozininkas ir dramaturgas.

Studijavo Maskvos universiteto Medicinos fakultete, už dalyvavimą studentų protestuose 1890-aisiais areštuotas ir pašalintas iš universiteto. Kalėjo Butyrkų kalėjime.

1909–1910-aisiais gyveno Vilniuje, kurį laiką dirbo „Naša Nivos“ sekretoriumi, paskui – Literatūros skyriaus vadovu. Dirbo laikraščio „Bielarus“ redakcijoje. Buvo techniniu gudų žemės ūkio žurnalo „Sacha“ ir gudų žurnalo vaikams ir jaunimui „Lučynka“ Minske redaktorius.

Išvertė į gudų kalbą apsakymų rinkinius, nemažai recenzijų ir literatūros kritikos straipsnių. Nebaigtas liko jo romanas „Auksas“.




Уладзіслаў Паўлюкоўскі (Улад Ініцкі)
Vladislovas Pauliukouskis (Vladas Inickis)

# Уладзіслаў Паўлюкоўскі
# (Улад Ініцкі)
## 01.05.1895 – 08.11.1955

Беларускі паэт, празаік, этнограф, мастак і краязнаўца.

Працаваў у канцылярыі маёнтка князя Радзівіла. Удзельнік грамадзянскай вайны ў Расіі. У сярэдзіне 1920-х г. пераехаў у Вільню. Супрацоўнічаў з Беларускай Рэвалюцыйнай Грамадой. Пісаў у часопісы "Маланка", "Шлях моладзі", "Авадзень". Афармляў мастацкія кніжкі, календары, падручнікі. Быў арыштаваны ў 1926 г. і адбываў зняволенне ў Лукішскай турме.

Другі раз арыштаваны ў 1939 годзе і накіраваны ў канцлагер Картуз-Бяроза. З 1945 па 1948 гг. працаваў дырэктарам Літаратурнага музея А. Пушкіна ў Вільні.

Арыштаваны ў 1948 г., этапаваны ў Мінск. Быў асуджаны на 10 гадоў лагераў, аднак са зняволення яго вызвалілі ў 1953 г. У родную Вільню Паўлюкоўскі вярнуўся паралізаваным.

Аўтар шэрагу перакладаў, вершаў і апавяданняў.

# Vladislovas Pauliukouskis
# (Vladas Inickis)
## 1895 05 01 – 1955 11 08

Gudų poetas, prozininkas, etnografas, menininkas ir kraštotyrininkas.

Dirbo kunigaikščio Radvilos dvaro kanceliarijoje. Dalyvavo Rusijos pilietiniame kare. Apie 1925-uosius persikraustė į Vilnių. Bendradarbiavo su Gudų revoliucine hramada. Rašė žurnalams „Malanka", „Šliach moladzi", „Avadzień". Apipavidalino menines knygas, kalendorius, vadovėlius. Areštuotas 1926-aisiais ir įkalintas Lukiškių kalėjime.

Kitąkart suimtas 1939-aisiais ir išsiųstas į Kartuz-Biarozos koncentracijos stovyklą. Nuo 1945 iki 1948-ųjų direktoriavo A. Puškino literatūros muziejuje Vilniuje.

Areštuotas 1948-aisiais ir išsiųstas į Minską. Buvo nuteistas 10 metų kalėti, tačiau paleistas 1953-aisiais. Į gimtąjį Vilnių Pauliukouskis grįžo paralyžiuotas.




Станіслаў Станкевіч
Stanislovas Stankevičius

# Станіслаў Станкевіч
1886 – 03.02.1964

Беларускі грамадска-культурны дзеяч, паэт, выдавец.

Працаваў у кнігарні Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні. З'яўляўся актыўным удзельнікам беларускага нацыянальнага руху.

У 1926 годзе заснаваў уласную беларускую кнігарню, якая дзейнічала да Другой сусветнай вайны. Удзельнічаў у выданні беларускага адрыўнога календара і беларускіх кніг.

Рэпрэсаваны савецкімі ўладамі ў 1945 годзе і высланы на Урал. Праз дзесяць гадоў вярнуўся на Радзіму і неўзабаве быў рэабілітаваны.

Аўтар двух зборнікаў вершаў: «Сьмех ня грэх» і «З майго ваконца».

# Stanislovas Stankevičius
1886 – 1964 02 03

Gudų visuomenės ir kultūros veikėjas, poetas, leidėjas.

Dirbo Gudų leidybinės draugijos knygyne Vilniuje, aktyviai prisidėjo prie gudų tautinio judėjimo.

1926-aisiais įkūrė nuosavą gudišką knygyną, veikusį iki Antrojo pasaulinio karo. Dalyvavo leidžiant gudų stalo kalendorių ir gudų knygas.

Represuotas sovietų 1945-aisiais ir ištremtas į Uralą. Po dešimties metų grįžo į tėvynę, netrukus reabilituotas.

Dviejų eilėraščių rinkinių: „Juoktis ne nuodėmė“ ir „Iš mano langelio“, autorius.




Альбін Стэповіч
Albinas Stepovičius

# Альбін Стэповіч
18.03.1894 – 18.12.1934

Беларускі грамадска-культурны і рэлігійны дзеяч, удзельнік беларускага хрысціянскага руху пачатку XX ст., кампазітар і музыказнаўца, літаратурны крытык і публіцыст, выдавец.

Атрымаў адукацыю ў Казанскім і Віленскім універсітэтах. Кіраваў беларускім хорам у Вільні. Выкладаў музыку і спевы ў Віленскай беларускай гімназіі.

Адзін з заснавальнікаў Беларускага каапературнага земляробча-прамысловага банку ў Вільні.

Кіраваў віленскай суполкай Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, уваходзіў у яго адміністрацыйна-кіраўнічыя органы. Выбітны дзеяч Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

Аўтар навукова-папулярных нарысаў па праблемах беларускай музычнай культуры і нацыянальнай песні.

# Albinas Stepovičius
1894 03 18 – 1934 12 18

Gudų visuomenės, kultūros ir religijos veikėjas, XX a. pr. gudų krikščionių judėjimo dalyvis, kompozitorus ir muzikologas, literatūros kritikas ir publicistas, leidėjas.

Gavo išsilavinimą Kazanės ir Vilniaus universitetuose. Vadovavo gudų chorui Vilniuje. Dėstė muziką ir dainavimą Vilniaus gudų gimnazijoje.

Vienas Gudų kooperacinio žemės ūkio ir pramonės banko Vilniuje steigėjų.

Vadovavo Gudų ūkio ir kultūros instituto Vilniaus skyriui, priklausė jo administracinėms struktūroms. Iškilus Gudų krikščioniškosios demokratijos veikėjas.

Populiariojo mokslo apybraižų gudų muzikinės kultūros ir tautinės dainos temomis autorius.



Канстанцін Стэповіч (Казімір Сваяк)
Konstantinas Stepovičius (Kazimieras Svajakas)

## Канстанцін Стэповіч
## (Казімір Сваяк)
## 19.02.1890 – 06.05.1926

Беларускі каталіцкі святар, грамадскі дзеяч, паэт і музыкант.

Скончыў Пецярбургскую духоўную семінарыю.

Супрацоўнічаў з беларускімі газетамі "Наша Ніва", "Беларус".

Ініцыятар адкрыцця беларускіх школ і актыўны прапагандыст беларускамоўных служэнняў у касцёле.

Аўтар шматлікіх вершаў, літаратурных эсе, публіцыстычных апавяданняў, рэлігійных артыкулаў.

## Konstantinas Stepovičius
## (Kazimieras Svajakas)
## 1890 02 19 – 1926 05 06

Gudų katalikų kunigas, visuomenės veikėjas, poetas ir muzikantas.

Baigė Peterburgo kunigų seminariją.

Bendradarbiavo su gudų laikraščiais „Naša Niva", „Bielarus".

Inicijavo gudų mokyklų atidarymą, aktyviai propagavo mišias gudų kalba.

Daugelio eilėraščių, esė, publicistinių apsakymų, religinių straipsnių autorius.




Уладзіслаў Талочка
Vladislovas Taločka

## Уладзіслаў Талочка
06.01.1887– 14.11.1942

Беларускі каталіцкі святар, гісторык, літаратурны крытык, педагог.

Атрымаў адукацыю ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі і каталіцкім універсітэце Інсбурга (Аўстрыя).

Актыўны прыхільнік правядзення каталіцкіх службаў па-беларуску. Стала супрацоўнічаў з літоўскімі культурнымі і асветніцкімі выданнямі: “Draugija”, “Vadovas”. Публікаваў свае матэрыялы ў часопісе “Dwutygodnik Diecezjalny”. Падтрымліваў выданне беларускага часопіса “Беларус”.

У 1915 г. – адзін з арганізатараў Віленскага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны і беларускага дзіцячага прытулку “Золак”.

Выкладае ў віленскіх беларускіх школах рэлігію і вядзе адмысловыя курсы для непісьменных і працаўнікоў.

Супрацоўнічаў з нямецкім, італьянскім, літоўскім, украінскім, польскім друкам.

З 20-х гадоў XX ст. патрапляў пад рэпрэсіі. З 1938 году загадам віленскага ваяводы прымусова выселены з Вільні.

## Vladislovas Taločka
1887 01 06 – 1942 11 14

Gudų katalikų kunigas, istorikas, literatūros kritikas, pedagogas.

Gavo išsilavinimą Vilniaus kunigų katalikų seminarijoje ir katalikų universitete Insburge (Austrija).

Aktyvus mišių gudiškai šalininkas. Nuolat bendradarbiavo su lietuvių kultūros ir švietimo leidiniais: „Draugija“, „Vadovas“. Publikavosi žurnale „Dwutygodnik Diecezjalny”. Rėmė gudų žurnalą „Bielarus“.

1915-aisiais – vienas Vilniaus komiteto nukentėjusiesiems nuo karo paremti ir Gudų vaikų prieglobsčio „Zolak“ organizatorių.

Dėstė Vilniaus gudų mokyklose religiją ir vedė specialius kursus neraštingiesiems ir darbininkams.

Bendradarbiavo su vokiečių, italų, lietuvių, ukrainiečių, lenkų spauda.

Nuo XX a. trečiojo dešimtmečio būdavo represuojamas. Nuo 1938-ojo Vilniaus vaivados įsakymu prievarta išsiųstas iš Vilniaus.

## Яўстах Тышкевіч
18.04.1814 – 08.09.1873

Беларускі археолаг, гісторык, этнограф, краязнаўца, музеязнаўца і адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі.

Ганаровы чалец Пецярбургскай Акадэміі навук, чалец Дацкага Таварыства аматараў старажытнасці, Стакгольмскай Каралеўскай акадэміі выяўленчага мастацтва і старажытнасцяў, Лонданскага археалагічнага інстытута. Граф, род герба «Ляліва».

Вядомы навуковец у галіне гісторыі і археалогіі. Даследчык старажытных курганоў. Тэарэтык адзінага паходжання беларусаў і літоўцаў, а таксама літвінізму. Складальнік Віленскага музея старажытнасцяў. Аўтар шэрагу навуковых кніг, краязнаўчых прац і даследаванняў фальклору.

## Jaustachas Tyškevičius
1814 04 18 – 1873 09 08

Gudų archeologas, istorikas, etnografas, kraštotyrininkas, muziejų specialistas ir vienas gudų mokslinės archeologijos pradininkų.

Peterburgo mokslų akademijos garbės narys, Danijos senovės mylėtojų draugijos, Stokholmo karališkosios dailės ir senienų akademijos, Londono archeologijos instituto narys. Grafas, Lelivos herbo giminė.

Žinomas istorijos ir archeologijos mokslo atstovas. Senovės piliakalnių tyrinėtojas. Gudų ir lietuvių bendros kilmės, taip pat litvinizmo teoretikas. Vilniaus senienų muziejaus sudarytojas. Daugelio mokslinių knygų, kraštotyros darbų ir tautosakos tyrinėjimų autorius.




Людвіка Ямант
Liudvika Jamantaitė

## Людвіка Ямант
1833–1914

Людвіка Ямант – удзельніца паўстання 1863-1864 гг. Паходзіць з роду Ямантаў і з’яўляецца сястрой Марыі Ямант (каханай кіраўніка паўстання 1863 г. Кастуся Каліноўскага).

Людвіка Ямант уваходзіла ў нелегальны Жаночы камітэт у Вільні. Актыўна дапамагала паўстанню 1863 года. У 1865 годзе за ўдзел у паўстанні была выслана ў Разанскую губерню.

## Liudvika Jamant
1833–1914

Liudvika Jamant – 1863–1864 m. sukilimo dalyvė. Liudvika kilusi iš Jamantų giminės ir yra Marijos Jamant (Kosto Kalinausko sužadėtinės) sesuo. Dalyvavo nelegalaus Vilniaus moterų komiteto veikloje ir 1863 m. sukilime. 1865 m. už dalyvavimą sukilime ištremta į Riazanės sritį.

## Аляксандр Аскерка
1830 – 11.01.1911

Беларускі грамадскі дзеяч, удзельнік паўстання 1863 года. Паходзіць са шляхетнага роду Аскеркаў. Нарадзіўся ў Рэчыцкім павеце. Скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт. З 1861 года чалец Віленскага ўпраўлення па справах сялян. Актыўны прыхільнік стварэння беларускіх, польскіх і літоўскіх школ для сялян. У 1862 годзе ініцыятар выдання беларускага буквара-катэхізіса. У канцы лютага 1863 года ўвайшоў у кіруючыя структуры паўстання 1863 года. 31 траўня 1863 года арыштаваны расійскімі ўладамі і прысуджаны да смяротнага пакарання, якое пасля замянілі на катаргу ў Сібіры. У 1872 годзе жыў у Варшаве. З 1885 па 1904 год быў дырэктарам філіі страхавога таварыства ў Вільні.

## Aliaksandras Askerka
1830 – 1911 01 11

Gudų veikėjas, 1863 m. sukilimo dalyvis. Kilęs iš Askerkų šliachtos giminės, gimė Rečicos apskrityje, baigė Peterburgo universitetą. Nuo 1861 m. valstiečių reikalų komiteto narys. Aktyvus lietuvių, gudų ir lenkų mokyklų atidarymo idėjos šalininkas. 1863 m. jo dėka buvo išleistas abėcėlės-katechizmas gudų kalba. 1863 m. vasario mėnesį įėjo į sukilimui vadovaujančių struktūrų sudėtį. Gegužės mėnesį areštuotas carinės valdžios ir nuteistas mirti. Mirties nuosprendis po to buvo pakeistas tremtimi į Sibirą. 1872 m. apsistoja Varšuvoje. Vėliau grįžo į Vilnių. 1885–1904 m. buvo draudimo kompanijos Vilniaus filialo direktoriumi.

## Пасляслоўе

Безумоўна, гэтае выданне – толькі маленькая кропля ў акіяне беларускай гісторыі ў Вільні, бо яна патрабуе дыялогу паміж усімі краінамі: Беларуссю, Літвой, Польшчай ды іншымі. Гэта праца на доўгія дзесяцігоддзі.

Заўжды з чагосьці трэба пачынаць. Пра гісторыю беларусаў у Вільні (і на Віленшчыне) выдадзена не так шмат кніг. Самым яскравым прыкладам такой літаратуры стала кніга Л. Луцкевіча “Вандроўкі па Вільні”, якая і натхніла на гэтую працу.

Варта, каб усе разумелі, што гісторыя не можа быць толькі “чорнай” ці толькі “белай”. Палітра фарбаў самая розная, але самае галоўнае ў гэтай “палітры” – знайсці той “колер”, які быў бы прымальны для ўсіх.

Час крыўдаў ды канфрантацый мінуў, прыйшоў новы час. Час дыялогу і дыскусіі. Да таго ж, людзі паступова ўсведамляюць, што галоўнае ў жыцці тое, што аб’ядноўвае ўсіх нас, а не тое, што нас раз’ядноўвае. І так павінна быць.

## Pabaigos žodis

Be abejo, šis leidinys – tai tik mažas lašas Vilniaus gudų istorijos jūroje. Ši istorija reikalauja visų šalių – Gudijos, Lietuvos, Lenkijos ir kitų – dialogo. Tai –dešimtmečių darbas.

Visad reikia nuo kažko pradėti. Apie Vilniaus (ir Vilniaus krašto) gudų istoriją išleista ne per daugiausia knygų. Ryškiausias tokios literatūros pavyzdys yra knyga „Kelionės po Vilnių“, kuri įkvepė mane parašyti šį darbą.

Derėtų suprasti, jog istorija negali būti tik „juoda“ ar tik „balta“. Spalvų įvairovė yra labai didelė. Svarbu rasti visiems priimtiną. Nuoskaudų ir konfrontacijų laikas praeityje, atėjo nauji laikai. Dialogo ir diskusijos laikai. Be to, žmonės ilgainiui suvokia, kad gyvenime svarbiausia tai, kas mus vienija, o ne tai, kas skiria. Taip ir turi būti.

# Турыстычныя аб’екты \ Turizmo objektai

1. Помнік Міндоўгу і Нацыянальны музей \ Paminklas Mindaugui ir Nacionalinis muziejus
2. Верхні замак і вежа Гедыміна \ Aukštutinė pilis ir Gedimino bokštas
3. Мяркуемая магіла Каліноўскага \ Numanomas Kosto Kalinausko kapas
4. Палац Валадароў ВКЛ \ LDK Valdovų rūmai
5. Кафедральны сабор \ Arkikatedra bazilika
6. Бібліятэка Барыса Даніловіча \ Boryso Danilovičiaus biblioteka
7. Бібліятэка Акадэміі навук Літвы \ \Lietuvos mokslų akademijos biblioteka
8. Помнік Гедыміну \ Paminklas Gediminui
9. Нацыянальны драматычны тэатр \ Nacionalinis dramos teatras
10. Плошча Вінцаса Кудзіркі \ Vinco Kudirkos aikštė
11. Рэдакцыя газеты “Наша Ніва” (1913–1914) \ Laikraščio „Naša Niva“ redakcija (1913–1914)
12. Рэдакцыя газеты “Наша Доля” \ Laikraščio „Naša Dolia“ redakcija
13. Палац Радзівілаў \ Radvilų rūmai
14. Дом Браніслава Тарашкевіча (1923–1926 гг.) \ Bronislavo Taraškevičiaus namai (1923–1926 m.)
15. Дом Янкі Пазняка \ Jankos Pazniako namai
16. Дом настаўніка \ Mokytojų namai
17. Касцёл Св. Кацярыны \ Šv. Kotrynos bažnyčia
18. Бюст Станіслава Манюшкі \ Stanislovo Maniuškos biustas
19. Беларускі банк \ Gudų bankas
20. Касцёл Св. Духа \ Šv. Dvasios bažnyčia
21. Мемарыяльная дошка ў гонар Каліноўскага \ Kosto Kalinausko atminimo lenta
22. Друкарня Марціна Кухты \ Martyno Kuktos spaustuvė
23. Віленскі ўніверсітэт \ Vilniaus universitetas
24. Касцёл Св. Яна \ Šv. Jonų bažnyčia
25. Прэзідэнцкі палац \ Prezidentūra
26. Дом сігнатараў \ Signatarų namai
27. Мемарыяльная дошка ў гонар Сыракомлі \ Syrokomlės atminimo lenta
28. Беларускі народны дом \ Gudų tautos namai
29. Касцёл Св. Ганны \ Šv. Onos bažnyčia
30. Касцёл бернардынцаў \ Bernardinų bažnyčia
31. Касцёл Св. Міхала \ Šv. Mykolo bažnyčia
32. Прычысценскі сабор \ Skaisčiausios Dievo motinos cerkvė
33. Зарачанскі мост \ Užupio tiltas
34. Дом Браніслава Тарашкевіча (1921–1922 гг.) \ Bronislavo Taraškevičiaus namai (1921–1922 m.)
35. Віленскія абарончыя муры \ Vilniaus gynybinės sienos bastionas
36. Царква Св. Духа \ Šv. Dvasios cerkvė
37. Касцёл Св. Тэрэзы \ Šv. Teresės bažnyčia
38. Вострая Брама \ Aušros vartai
39. Базыльянская брама \ Bazilijonų vartai
40. Мемарыяльная дошка ў гонар Багушэвіча \ Bahuševičiaus atminimo lenta
41. Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры \ Gudų ūkio ir kultūros institutas
42. Віленская беларуская гімназія \ Vilniaus gudų gimnazija
43. Касцёл Св. Казіміра \ Šv. Kazimiero bažnyčia
44. Ратушная плошча \ Rotušės aikštė
45. Інтэрнат Віленскай беларускай гімназіі \ Vilniaus gudų gimnazijos bendrabutis
46. Мемарыяльная дошка ў гонар Скарыны \ Skorinos atminimo lenta
47. Дворык дома Скарыны \ Skorinos namo kiemelis
48. Царква Св. Мікалая \ Šv. Mikalojaus cerkvė
49. Палац Хадкевічаў \ Chodkevičių rūmai
50. Пятніцкая царква \ Šv. kankinės Paraskevos cerkvė
51. Рэдакцыя газеты “Наша Ніва” (1907 г.) \ Laikraščio „Naša niva“ redakcija (1907)
52. Касцёл Св. Мікалая \ Šv. Mikalojaus bažnyčia
53. Палац Тышкевічаў \ Tyškevičių rūmai
54. Дом Вацлава Ластоўскага \ Vaclovo Lastouskio namai
55. Друкарня імя Францішка Скарыны \ Pranciškaus Skorinos spaustuvė
56. Дом Рыгора Шырмы \ Ryhoro Šyrmos namas

**Для напісання кнігі былі выкарыстаны наступныя крыніцы \ Šaltiniai, pagelbėję rengiant šią knygą:**


1. **Адамковіч Аляксандр**. Беларусы ў Літве: учора і сёння. Вільня: Таварыства беларускай культуры, 2010.
2. **Арлоў Уладзімер.** Імёны Свабоды. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе.). 2-е выд. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2009.
3. **Белорусское движение.** Очерк истории национального и революционного движения белорусов / Ф. Турук. Москва, 1921.
4. **Гісторыя Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. у дакументах і матэрыялах.** Хрэстаматыя / уклад., навуковы рэдактар А.Ф. Смалянчук. Вільня: ЕГУ, 2007.
5. **Гісторыя Беларусі найноўшага часу ў дакументах і матэрыялах.** Хрэстаматыя / уклад. Ю. Бачышча; нав. рэд. А.Ф. Смалянчук. Вільня: ЕГУ, 2008.
6. **История Белоруссии /** М.В. Довнар-Запольский. Минск: Беларусь, 2005.
7. **Кісялёў Г.В.** Аскерка Аляксандр Уладзіслававіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 1: А. Беліца / Беларус. Энцыкл.; Рэдкал.: М. Біч і інш.; Прадм. М. Ткачова; Маст. Э.Э. Жакевіч. Мн.: БелЭн, 1993.
8. **Луцкевіч Лявон.** Вандроўкі па Вільні. Вільня: Рунь, 1998.
9. **Мадэрная гісторыя Беларусі** / Ю. Туронак. Інстытут беларусістыкі. Вільня, 2006.
10. **Плыгаўка Лілія.** Беларуская мова ў Літве: сацыякультурны і лінгвістычны аспекты. Манаграфія. Vilnius: VPU leidykla, 2009.
11. **Шалькевіч Вячаслаў.** «Марыська чарнаброва, галубка мая...» Невядомыя старонкі з жыцця Кастуся Каліноўскага // Роднае слова. Мн., 1994. № 3.
12. **Электронная энцыклапедыя**: www.slounik.org [online 09.08.2011, 10:19].

**Працоўная група выказвае шчырую падзяку ў дапамозе па падрыхтоўцы дадзенага выдання:**
– дырэктару Цэнтра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры філалагічнага факультэта Літоўскага ўніверсітэта эдукалогіі, доктару, дацэнту *Лілеі Плыгаўцы*;
– выкладчыку Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, беларускаму літаратару, мастацтвазнаўцу і культуролагу *Сяргею Харэўскаму*;
– беларускаму грамадскаму дзеячу *Артуру Яўмену*.

**Darbo grupė už pagalbą rengiant leidinį nuoširdžiai dėkoja:**
– LEU Filologijos fakulteto Baltarusių kalbos, literatūros ir etnokultūros centro direktorei doc. dr. *Lilejai Plyhaukai*.
– Europos humanitarinio universiteto dėstytojui, gudų rašytojui, meno ir kultūros tyrėjui *Siargejui Chareuskiui*.
– Gudų visuomenės veikėjui *Arturui Jaūmenui*.

*Выданне стала магчымым дзякуючы фінансавай падтрымцы Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", а таксама падтрымцы часопіса "Apžvalga".*

*Išleisti leidinį finansiškai padėjo Europos humanitarinis universitetas ir pasaulio gudų bendruomenė „Backaūščyna", taip pat žurnalas "Apžvalga"*



МГА "Згуртаванне беларусаў свету"
"Бацькаўшчына"




Apžvalga

**Працоўная група/ Darbo grupė:**

Кіраўнік праекту і аўтар тэкстаў / Projekto vadovas ir tekstų autorius:
*Кірыл Атаманчык / Kirylas Atamančykas*
Фота/Foto:
*Марта Герашчанка, Алена Міхайлава / Marta Herashchanka, Elena Mikhailava*
Дызайн / Dizainas:
*Вольга Лучанок / Olga Luchanok*
Пераклад на літоўскую мову / Vertimas į lietuvių kalbą:
*Вадзім Вілейта / Vadzimas Vileita*
Карэктура тэкстаў / Tekstų koregavimas:
*Лілея Плыгаўка, Даля Камінскене / Lileja Plygavka, Dalia Kaminskienė*
Складанне турыстычных маршрутаў / Turizmo maršrutai:
*Дар'я Трус / Darya Trus*
Вёрстка / Maketavimas:
*Алег Малевіч / Alehas Malevičius*

Выданні серыі "Беларускія старонкі Вільні" выпушчаны адмыслова для азнаямлення як беларусаў, так і літоўцаў з гісторыяй і сучасным станам жыцця беларусаў на Віленшчыне. Дзве мовы (беларуская і літоўская), фотаздымкі ды мапы-схемы дадуць дадатковыя магчымасці ў пошуку прысутных у выданнях мясцінаў, установаў і іншую разнастайную інфармацыю.

Leidinių serija „Vilniaus gudų puslapiai" išleista tam, kad ir lietuviai, ir gudai galėtų daugiau sužinoti, kaip šiuo metu Vilniuje sekasi gyventi gudams. Dvi kalbos (gudų ir lietuvių), nuotraukos ir žemėlapiai suteiks daugiau galimybių rasti leidiniuose minimas vietoves, įstaigas bei kitą naudingą informaciją.

# Беларускія старонкі Вільні
# Vilniaus gudų puslapiai

Ля вытокаў незалежнай Беларусі
Сярэдзіна XIX – першая палова XX ст.

Prie nepriklausomos Gudijos ištakų
XIX a. vidurys – pirmoji XX a. pusė

Вільня 2012
Vilnius 2012